*Беларуская газэта*

# НАША НІВА

Пяты год выданьня

*№5, 1995*


# Ня зломіш!



*Малюнак Сяргея Харэўскага*

# ЛЕНКА

**Сяргей Мацёры**

Зь Ленкай Міхневіч мы вучыліся ў адной клясе 50-й менскай школы з матэматычным ухілам. Мы ніколі не сядзелі за адной партай, ніколі не хадзілі разам. Хоць жылі ў дамох, якія й цяпер стаяць адзін насупраць аднаго і паміж якімі — плошча Перамогі, якую тады называлі Круглай. Вы павінны ведаць дом з цырульняй. У ім і жыла Ленка.

Ленка была маім патаемным, зусім яшчэ дзіцячым каханьнем. Русявая дзяўчына з грубаватымі, як на маё цяперашняе ўяўленьне, рысамі твару, вельмі жаноцкая для свайго тадышняга ўзросту. Аднойчы я нават трапіў да яе дадому на дзень нараджэньня. У вялікім пакоі за круглым сталом сабралася шмат дзяцей, а на стале былі толькі заварныя піроржаныя. Памятаю, я моцна саромеўся свайго пачуцьця, бо Ленка сярод нас, аднагодкаў, выглядала вельмі дарослай.

Праз шмат гадоў пасьля школы я выпадкова пабачыў Ленку ў Заслаўі, дзе наша студэнцкая Майстроўня проста на траве ставіла народную драму «Цар Максімілян». Мы ўсё рабілі імправізавана, і Ленцы нават ледзь не дасталася роля царскага пажа, але знайшлася іншая дзяўчына. Мяне тады моцна зьдзівіла, што Ленка гаворыць па-беларуску і сьпявае разам з намі беларускія песьні. І я спытаўся ў яе, чаму яна не прыходзіць да нас у Майстроўню. Ленка ўсьміхнулася і адказала, што ўвогуле яна вельмі любіць сьпяваць, бо не ва ўсіх ёсьць голас і слых.

Гэта было зусім кароткае спатканьне, і мы зноў разьвіталіся на доўгія гады. Аж да сёлетняе вясны, калі я па справах рэдакцыі паехаў у Коўна. Ня ведаю, праўда, ці можна тое, што тут адбылося, назваць сустрэчай.

Прозьвішча Лены Міхневіч я прачытаў у ковенскім чачэнскім інфацэнтры, у сьпісах людзей, якія загінулі за незалежнасьць Чачэнскай Рэспублікі. Гэта яна — тая невядомая снайпэрка, грамадзянка Беларусі, пра гібель якой паведамілі расейскія інфармацыйныя агенцтвы. Згадваю, што ў тых паведамленьнях было нешта як бы пікантнае, і таму — марадзёрскае.

Чачэнскі журналіст, які паказваў мне сьпісы палеглых, сказаў, што на баку прэзыдэнта Дудаева ваююць да двухсот беларускіх патрыётаў. Яны нашываюць сабе на адзеньне чачэнскі сьцяг, і змагаюцца за *сваю* незалежнасьць. Чачэнскі сьцяг на зялёным тле ўніформы не адрозьніш ад беларускага.

Я слухаў чачэнца і думаў пра Ленку, пра сваё колішняе дзіцячае захапленьне. Яшчэ нясьпелае, але цяпер ужо вечнае...

## Дзёньнік прыватнага чалавека



Ужо заўважана, што ў Беларусі канец вясны — час сатаны, разгубленасьці й беспрычыннае тугі. Усё, здаецца, страчвае сэнс і толькі цісьне, цісьне невымоўным сваім цяжарам. Але вось адзін за адным грымяць травеньскія грымоты, і ачышчальная зьліва змывае ўвесь тлум і зь зямлі і з душы. Яшчэ трохі, і ўсё зноў стане зразумелае й яснае. Адно, што трэба будзе на цьвярозую галаву выпраўляць тыя памылкі й глупствы, што нароблены былі ў часе панаваньня сатаны. Але гэта ўжо не бязвыйсьнасьць, гэта ўжо ня так цяжка, гэта ўжо проста работа.

Аднойчы, калі пачаліся першыя летнія грымоты й зьлівы, увечары, я завёў свой запылены адаптар і стаў слухаць усе кружэлкі пяцісямігадовае даўнасьці. Тое, што тады называлася маладзёжнай музыкай і што сёньня ўжо асэнсавана ўспрымаецца як сапраўдны культурны рэнэсанс пасьля саўдэпу. Памятаеце, колькі было ўсяго: песьні бардаў і рок-гуртоў, самадрукі, радыёперадачы... Паміж беларускіх кружэлак мне трапілася Песьня пакаленьня «Акварыюма», і я не стрымаўся каб не працытаваць:

*Мы маўчалі, як цуцыкі,*
*Пакуль ішоў гандаль усім,*
*Што толькі можна прадаць,*
*У тым ліку нашых дзяцей.*
*І атручаны дождж*
*Падае ў гніючы заліў,*
*А мы ўсё яшчэ глядзім у экран,*
*Мы ўсё яшчэ чакаем навін.*

Далей мне ўжо не хапае перакладчыцкага імпэту і я спадзяюся, што за часы дзяржаўнасьці беларускай мовы ня ўсе яшчэ забыліся мову суседняга народу:

*И наши отцы*
*Никогда не солгут нам,*
*Они не умеют лгать,*
*Как волк не умеет есть мясо,*
*Как птицы не умеют летать.*

Сапраўды, хіба ведае воўк пра тое, што ён умее есьці мяса? Але я працягваю цытаваньне, тым больш, што далей, здаецца, самае надзённае:

*Скажи мне, что я сделал тебе,*
*За что эта боль?*
*Но это без объяснений,*
*Это, видимо, что-то в крови.*
*Но я сам разжег огонь,*
*Который выжег меня изнутри,*
*Я ушел от закона,*
*Но так и не дошел до любви.*

Ага, вось самае істотнае:

*Но молись за нас, молись за нас,*
*Если ты можешь.*
*У нас нет надежды, но*
*Этот путь наш...*
*И голоса звучат*
*Всё ближе и строже,*
*И будь я проклят,*
*Если это мираж.*

Песьня сёньняшніх беларускіх незалежнікаў. І ўсіх беларускіх дэмакратаў таксама.

Куды, дарэчы, падзявалася разумная расейская музыка? На маёй памяці — канцэрт таго ж «Акварыюму» ў менскім выставачным павільёне, што на праспэкце Машэрава. Бум, бум, бум — як у бочцы. Ані словаў не чуваць для тых, хто прыйшоў слухаць, ані рытму — для тых, хто зьбіраўся патанцаваць. Пасьля гэтага — пяць гадоў цішыні. Ці то ў Расеі больш ня робяць разумнай музыкі, ці то да нас — з пачаткам "інтэграцыйных працэсаў" — такая музыка не даходзіць. Адна папса...

Зрэшты, і нашыя гурты ўжо даўно не адыгрываюць тае ажыўляльнае ролі, якую мелі пяць гадоў назад. «Ты помніш, Стэфка...», «Пляц Францыска», «Я рок-музыкант старых традыцый»... Зусім кудысьці прапалі барды. Можа таму, што ўсё й так ажывіліся? Але, падобна, што ажывіліся ненадоўга, і ўжо сёньня зноў карціць узяць у рукі пяцігадовае даўнасьці зборнік вершаў ці колішнюю песьню. Старая любоў, як той казаў, не ржавее. Якаясь непражытая ў нас выйшла любоў. І цяпер час вяртае нас туды, дзе нам было добра разам.

# Ня зломіш!

Сяргей Паўлоўскі

Пасьля рэфэрэндуму мне затэлефанаваў мой калега і, каўтаючы словы, сказаў: гэта канец. Гэта пахаваньне нацыі, культуры, мовы, — усяго, чаму аддадзенае жыцьцё. У школах, у тэлевізіі, паўсюль адбываецца ня тое, што вяртаньне ў савецкія часы, але самы натуральны абвал у нікуды, у нішто...

Як мог, я супакоіў калегу і пачаў разважаць пра тое, што ж адбылося на рэфэрэндуме?

Па-першае, адбыўся захоп прэзыдэнтам усіх дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Па-другое, адбыўся гвалт над Канстытуцыяй краіны. Для такога вызначэньня дастаткова аднае расправы з дэпутатамі Вярхоўнага Савету, ня кажучы ўжо пра ўсё іншае. Па-трэцяе, адбылася канцэнтрацыя ўсёй улады ў руках А.Лукашэнкі й ягонай каманды. Усё гэта — ня што іншае, як АНТЫДЭМАКРАТЫЧНЫ ПЕРАВАРОТ у краіне.

Наіўна думаць, што гэты пераварот адбыўся дэмакратычным шляхам. Бо дэмакратыя ня падае зь неба за дзень і за так. У турэмнай камэры таксама выбіраюць пахана, але нікому ня прыйдзе ў галаву называць гэта дэмакратыяй.

Вы скажаце: гэта ня камэра, а народ? Тады ўявіце сабе сто тысяч камэр. Ці ў вас ёсьць адчуваньне, што вы на свабодзе?..

Наступная задача — зразумець, чаму большасьць насельніцтва выказалася супраць і супраць чаго?

З пытаньняў плебісцыту вынікае, што — СУПРАЦЬ КУЛЬТУРЫ ў шырокім разуменьні. Тут і эстэтычны момант (новы герб — яўная здрада густу) і этычны (вяскоўцы і выхадцы зь вёскі галасуюць супраць сваёй вясковай мовы). Такія рашэньні ніколі не прымаюцца асэнсавана і сьведчаць толькі пра тое, што людзі не адчуваюць гістарычнага часу, жывуць толькі сёньняшнім днём.

Калі людзі ня маюць адчуваньня вечнасьці — гэта значыць, што яны не належаць ні да якай культуры і будуць галасаваць за любую, самую абсурдную прапанову ўладаў. Уся праблема толькі ў тым, што такіх — у падвешаным стане — людзей у Беларусі пакуль зашмат. Каб іх станавілася меней, яны павінны "апрацоўвацца" культурай. Ня тым сурагатам, які праф. Чэкман называе "культурным комплексам" (гл. ст. 10-11), а культурай, гутарка пра якую пойдзе ніжэй.

Сапраўдным набыткам для Беларусі на рэфэрэндуме сталі людзі, якія галасавалі супраць прапановаў А.Лукашэнкі. Высьветлілася, што іх ня тысяча, як дзесяць гадоў таму, а добры мільён. Гэта людзі, якія належаць да культуры і арыентаваныя на дэмакратыю і незалежнасьць.

Заўважым, што незалежнасьць на рэфэрэндуме выступіла ўжо ў чыстым выглядзе, без постсавецкіх дамешкаў і ілюзій наконт "незалежнасьці" ў цесным саюзе з Расеяй.

Я нездарма пачаў з вызначэньня *антыдэмакратычны пераварот*, а цяпер настойліва ўжываю слова *культура*. Культура — падстава для дэмакратыі. І ня дзіва, што побач з сучаснымі ўладамі ў Беларусі слова *культура* ня пішацца ні ў якім кантэксьце.

Самае істотнае, што трэба зразумець: не па беларушчыне й незалежнасьці нанесены ўдар. Гэта толькі наступствы. Удар нанесены па дэмакратыі, па ўсіх людзях з дэмакратычнымі поглядамі, незалежна ад мовы й сацыяльнай арыентацыі. У Беларусі згвалтаваны закон, і процістаяць гэтаму гвалту мусяць усе сьвядомыя законапаслухмяныя грамадзяне — беларусы, расейцы, пісьменьнікі, рабочыя, мэдыкі, фізікі, левыя, правыя, зялёныя, аматары піва й тыя, хто выбраў пэпсі...

Цяпер адзначым два важнейшыя наступствы рэфэрэндуму:

1. Антыдэмакратычны пераварот мае антынацыянальны, *антыкультурны* характар, гэта значыць, скіраваны ў першую чаргу супраць інтэлігенцыі.

2. Інтэлігенцыя ніяк і ні ў чым не падтрымала А.Лукашэнку.

Выснова: *у Беларусі больш не існуе нацыянальнага афіцыёзу.* Гэта дрэнна, бо цяпер для беларушчыны будзе перакрывацца кісларод. Але гэта заканамерна, бо беларушчына становіцца сынонімам дэмакратыі ў антыдэмакратычнай дзяржаве. Гэта значыць, што новыя дэмакратычныя страйкі й мітынгі супраць рэжыму будуць адбывацца пад нацыянальнымі сьцягамі, а дэмакратычныя лёзунгі будуць пісацца беларускім словам. Штосьці падобнае ўжо мела месца пяць гадоў назад, але пасьля ўмяшаньня ў беларушчыну гэтага Вярхоўнага Савету сынанімічная пара на нейкі час была разбураная.

Гэтак ад канстатацыі вынікаў мы можам перайсьці да адказу на пытаньне: *а што ж далей?*

Сучасны рэжым выставіў толькі адзін кліч: "Адраджэньне СССР". І таму цяпер — самы спрыяльны час для кансалідацыі ўсёй беларускай дэмакратыі пад дыямэтральна процілеглым лёзунгам: "Незалежнасьць". Менавіта цяпер можа быць заснаваны рух, які ня будзе ўдзельнічаць у гульнях адваротна арыентаванага рэжыму, на чым прагарэлі ўсе ранейшыя беларускія партыі. Калі гэты рух аб'яднае ўсю беларускую дэмакратыю пад адзіным толькі словам — *незалежнасьць*, — тады пад ягонымі сьцягі прыйдзе ўвесь наш сьвядомы мільён. І калі рух ня будзе пэцкацца ў гульні ўлады, то і ўвесь астатні, "завіслы" электарат хутка зразумее, хто яго падмануў (бо ніякага паляпшэньня жыцьця людзей не прадбачыцца) і разьвернецца на 180 градусаў.

Мамант найбольш спрыяльны таму, што новая люмпэн-пралетарская тыранія ў Беларусі толькі ўстае на ногі, набірае сілу, нагнятае масавы псыхоз. І якраз агульнадэмакратычны рух можа стварыць гэтай тыраніі рэальную процівагу. У адваротным выпадку каманда А.Лукашэнкі паралізуе ўсё жыцьцё ў краіне, і тады ўжо ніякі легальны рух проста ня здолее стварыцца.

Урэшце пра ўсё гэта я распавёў свайму роспачнаму калегу, заўважыўшы, што калі ён і падзе ахвярай, то не антыбеларускага настрою ў сваім жа народзе, а — антыдэмакратычнага рэжыму. Па вялікім рахунку, пагроза існуе ня мове і не культуры, а дэмакратычнаму ладу, які ў нас толькі пачаў быў усталёўвацца. Што да беларушчыны, то яе лёс будзе вырашацца толькі ў зьвязку зь лёсам дэмакратыі.

І тут мне застаецца сфармуляваць рэальныя гарантыі беларушчыны:

1. У БЕЛАРУСІ НЯМА Й НЯ МОЖА БЫЦЬ ІНШАЙ КУЛЬТУРЫ АПРАЧА БЕЛАРУСКАЙ. Нас часам параўноўваюць зь Ірляндыяй. Але ў нас па-беларуску гаворыць вёска. І калі зь Ірляндыі выйшла аж некалькі англамоўных пісьменьнікаў-нобэлеўцаў, то Беларусь можа даць нобэлеўца толькі беларускамоўнага. Расейскамоўнай прафэсійнай культуры ў нас няма. Ёсьць толькі сурагатны "культурны комплекс". З гэтай гарантыі вынікае наступная:

2. У БЕЛАРУСІ НЯМА Й НЯ МОЖА БЫЦЬ ІНШАЙ ДЭМАКРАТЫІ АПРОЧ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ. Бо дэмакратыі без культуры, паўтару, не бывае. Адсюль — трэцяя гарантыя:

3. У БЕЛАРУСІ НЯМА Й НЯ МОЖА БЫЦЬ ІНШАЕ БУДУЧЫНІ АПРОЧ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ.

Як хутка гэтая будучыня настане — залежыць толькі ад беларускай дэмакратыі. Стварыць рух; падбаць пра культурны і ўвогуле гуманітарны працэс, дарэчы, даволі занядбаны за мінулыя пяць гадоў палітычнага азарту, і абавязкова — ісьці ў сьвет, дзе нас сапраўды чакаюць калегі па дыялёгу, ствараць "канвэртабэльныя" каштоўнасьці, ня выпасьці з эўрапейскага культурнага кантэксту, — гэта значыць, цягнуць у сьвет свайго спажыўца культуры, свой народ, каб ён нарэшце даведаўся і пераканаўся, што жыць можна ня толькі так, як ён жыў або жыве, але й па-іншаму, па-нармальнаму, па-людзку.

Калега выслухаў усе мае развагі і сказаў: ведаеш, пакуль ты гаварыў, я падумаў — калі ўладам няма справы да беларушчыны, значыць, ім няма справы і да ўсіх нас. А ў такім разе чаму мы, законапаслухмяныя людзі, павінны цацкацца з уладамі, якім напляваць на нас, на Канстытуцыю, на дзяржаву, гісторыю, мову?..

Мы не павінны цацкацца.



# НАРАДЖЭНЬНЕ НАЦЫІ

Алег Дзярновіч

З колькаснымі паказчыкамі рэфэрэндуму ў руках можна казаць пра нараджэньне 14 траўня 1995 году беларускай нацыі. Дакладней — нацыя заявіла аб сваім існаваньні. Тая чвэрць выбаршчыкаў, што прагаласавала за нацыянальную сымболіку і парляманцкую рэспубліку, гэтым самым заявіла аб існаваньні мільённай супольнасьці людзей, якая мае беларускую сьвядомасьць, культурныя прыхільнасьці й нацыянальнае бачаньне сьвету. Прычым культурная арыентацыя тут больш важная й выразная, чым чыста лінгвістычная. Меншая розьніца паміж арыентацыяй зьнешнепалітычнай і лінгвістычнай, але й тут такі факт — супраць эканамічнага саюзу з Расеяй прагаласавала больш людзей, чым супраць дзяржаўнасьці расейскай мовы. Гэты невялічкі працэнт фіксуе, апроч іншага, існаваньне расейскамоўных беларускіх нацыяналістаў.

Зрэшты, вызначэньне сытуацыі (што праявіў рэфэрэндум) беларускімі культуролягамі было зробленае яшчэ раней. У канцы мінулага году ў дакладзе Радзе Эўропы аб становішчы нацыянальных меншасьцяў у Беларусі Ігар Бабкоў сфармуляваў праблему суадносінаў беларускай "меншасьці-большасьці". Тыя, хто прагаласаваў супраць, зьяўляюцца культурна-лінгвістычнай меншасьцю ў беларускім грамадзтве і адначасова належаць да грамадзянскай большасьці выбаршчыкаў-статыстаў. Іншымі словамі, працэс фармаваньня нацыі не ахапіў яшчэ ўвесь этнас. Акрэсьленая нацыянальная супольнасьць можа пашырацца за кошт астатняга насельніцтва.

Да апошняга моманту асноўныя высілкі адраджэнцаў прыкладаліся да экстэнсіўнага пашырэньня беларускіх маркераў. Папулярызатарства, дыдактыка і былі сутнасьцю таго працэсу, што вызначаецца як "адраджэньне". Тым самым недзе былі занядбаныя праблемы самадастатковасьці нацыянальнай культуры. Але вось нацыянальная супольнасьць існуе, яна фіксуецца сацыялягічным інструмэнтарыем. Набыўшы свае палітычныя арыентацыі і этнічныя стэрэатыпы, яна мае патрэбу ў структураванай завершанай нацыянальнай культуры. А самая культурная палітыка мусіць рабіцца больш гнуткаю, больш спэцыялізаванаю. Хто абірае напрамак асьветніцтва, хто — тварэньня ў кантэксце сваёй культуры. Эфэктыўнасьць першага экстэнсіўнага напрамку забясьпечваецца ўнутранаю самадастатковасьцю беларускай культуры. Тады будзе спрацоўваць ужо добра ведамы ў культуралёгіі прынцып "узорнай групы": хуткія глябальныя зьмены ў культурнай сытуацыі немагчымыя, мадэль разьвіцьця адпрацоўваецца на пэўнай групе, якая і называецца ўзорнаю.

900 тысячаў эстонцаў нават за савецкім часам у расейскім моры здолелі нарасьціць усю культурную інфраструктуру, што патрэбная для паўнавартаснага існаваньня нацыі. Рэфэрэндум выразна акрэсьліў кола па-беларуску самаідэнтыфікаваных людзей. Гэта больш чым дастатковая колькасьць носьбітаў культурнай інфармацыі. Можа быць, ва ўрбаністычным XX ст. гэта самыя вялікія паказчыкі ў беларусаў. Дастатковыя, каб, прынамсі, не растварыцца ў новай сытуацыі — ва ўмовах пабудовы савецкага раю з элементамі дыктатуры, з панславізмам у якасьці афіцыйнай ідэалёгіі. Ясна, што ня ўсе вышэй вызначаныя (самаакрэсьленыя) людзі — актыўныя творцы гэтай культуры, але ўсе яны ў той ці іншай ступені зьяўляюцца спажыўцамі культурнай інфармацыі, адрасатамі ўласна беларускага друку, кіно, тэатру... Забесьпячэньне культурных патрэбаў дадзенай супольнасьці — функцыя беларускай прафэсійнай культуры, а сама супольнасьць — трывалы гарант культуры.



Дзяніс Раманюк. Пэрформанс «Рэфэрэндум». Галерэя Рональда Фальдмана, Нью-Ёрк.

# Адказнасьць за адказ

Антон Сіюль

Калі прамовіць слова "дэмакратыя", то адзін уявіць сабе каралеўства Швэцыя, другі — Лівійскую Джамахірыю, трэці — выспу Свабоды. Ад часоў Плятона й Цыцэрона пад дэмакратыяй разумелі ўладу народу, людзей, якія самі вырабляюць прадукт альбо кіруюць вырабам, маюць уласнасьць і пачуцьцё адказнасьці перад дзяржавай (плоцяць падаткі і пры патрэбе бяруцца за зброю) і сваёй сям'ёю (абавязак утрымліваць старых, жонак і рабоў). Такім чынам, права на дэмакратыю замацоўвалася за "дэмасам", які прымнажае прадукт і нясе адказнасьць. Праўда, яшчэ за часамі Рымскае імпэрыі вартасьць дэмакратыі стала здавацца сумнеўнаю з прычыны росту безмаёмаснага й безадказнага плебсу. Плебс урэшце здаволіўся "відовішчамі й хлебам", пакінуўшы свае правы на кіраваньне Рымам алігархіі.

"Правы чалавека" былі канстытуяваныя разам зь зьяўленьнем ЗША. Ізноў гэтыя правы тычыліся людзей, цалкам адказных за саміх сябе і за сваю ўласнасьць. І толькі па меры пашырэньня кола ўласьнікаў зьявілася патрэба пашырэньня колькасьці карыстальнікаў правамі й абавязкамі (адказваць за блізкіх, плаціць падаткі, абараняць дзяржаву і ўдзельнічаць у судзе прысяжных).

Залаты век Рэчы Паспалітай, дзе дэмакратыя была пашыраная бязь меры на чвэрць насельніцтва, скончыўся на тым, што абавязкі яе носьбітаў яўна пераважылі асабістую карысьць. Большую частку свайго жыцьця шляхта XVII ст. праводзіла ў паходах ды ў судах. Ізноў патрэба ў такой дэмакратыі была пастаўленая пад сумнеў. Шляхта адмовілася ад адказнасьці, склала зь сябе клопат абавязкаў. У выніку ў палон была здадзеная цэлая дзяржава. А расплочвацца (браць на сябе адказнасьць) давялося дзецям. Касьцюшка, Каліноўскі, Грынявіцкі... Давялося расплочвацца жыцьцямі, такі абавязак.

Што адбылося 14 траўня? Цёплым нэўрозным вечарам супраць пэрспэктываў дэмакратыі дэмакратычным шляхам прагаласавала абсалютная большасьць пэнсіянэраў (1/4 насельніцтва Беларусі) і абсалютная меншасьць моладзі. А што яшчэ маглі адказаць на пытаньні прэзыдэнта масы дзяржаўных утрыманцаў, безмаёмасных і пераканаsuccessfully у тым, што ўсе свае абавязкі яны ўжо выканалі?

Калі дрэва дае добрыя плады, ці патрэбныя яму законы? Калі ж людзі ня маюць магчымасьці распарадзіцца нават сабою (бо намёртва прывязаныя да пэнсіяў і льготаў), ці маюць яны права распараджацца будучыняй (у тым ліку і сваёй)?

Але атрафія сьведамасьці тых, на чые плечы заўтра пакладуцца абавязкі, толькі часовая... Для тых, хто яшчэ не пачаў жыць самастойна, тых, хто мусіць кіраваць вытворчасьцю, гандлем, абарачэньнем капіталу, тых, хто заўтра будзе вырабляць прадукт і ім распараджацца, тых, хто будзе вымушаны бараніць законнасьць і дзяржаўнасьць. Са зьяўленьнем уласнасьці і яе прыростам палітыка напоўніцца рэальным зьместам. Аднак за сёньняшнюю атрафію цяперашняе маладое пакаленьне ўсё ж заплоціць. Дзяржава пэнсіянэраў і льготнікаў ня ў стане больш утрымліваць невытворчыя масы. Адзіны спадзеў дзяржавы — на моладзь, якую трэба ўцягнуць у вытворчасьць хоць чаго-небудзь. Але моладзь, якая ўдыхнула свабоды, ужо не загоніш прымусова на працу, якая не цікавіць і не аплочваецца адпаведным чынам.

Лёс дзяржавы павінны вырашаць тыя людзі, якія ў стане адказаць за сябе, сваю сям'ю, сваю ўласнасьць і ўмеюць гэтым распарадзіцца. Сёньня лёсам дзяржавы распарадзіліся людзі, якія нічога ня маюць і ня ў стане распарадзіцца нічым. Заўтра ж для той часткі народу, якой не далі эфэктыўна распарадзіцца ўласнасьцю й сродкамі, вынікі рэфэрэндуму й выбараў абернуцца драмай...

Толькі той, хто плоціць найбольшы рэальны падатак на ўтрыманьне дзяржавы, павінен мець права ёю распараджацца.

## Errata



### ГАВАРЫЦЬ, КАЗАЦЬ

Пад уплывам расейскай мовы дзеяслоў *гаварыць* часта ўжываецца на месцы дзеяслова *казаць: Што ты яму гаварыла? Вы гаварылі, што прыйдзеце заўтра да нас* — замест "*казала*", "*казалі*". Інтэрфэрэнцыйны ўплыў выкліканы тым, што ў пэўных значэньнях расейскае *говорить* адпавядае як дзеяслову *гаварыць*, гэтак і *казаць*. Зьмяшэньне гэтых словаў зафіксавана нават Тлумачальным Слоўнікам, дзе ў дэфініцыях словаў *гаварыць* (2. знач.) і *казаць* (1.знач.) фактычна цяжка заўважыць розьніцу, дый падтрыманы гэтыя дэфініцыі цытатамі з досыць аўтарытэтных аўтараў.

Тым часам фальклёрны й дыялектны матэрыял, а таксама народная фразэалёгія даюць падставы даволі выразна размежаваць выпадкі ўжываньня аднаго або другога слова (у адзначаных значэньнях паводле ТСБМ).

ГАВАРЫЦЬ/ПАГАВАРЫЦЬ (з кім, пра што, як) — знаходзіцца ў стане маўленьня, прамаўляць, гутарыць, гаманіць. *Гаварыць з братам. Гаварыць пра надвор'е. Гаварыць ціха. Шмат гаварыць.* (= рас. *говорить/поговорить, разговаривать*).

КАЗАЦЬ/СКАЗАЦЬ (каму, што) — паведамляць вусна вэрбальную інфармацыю. *Казаць нешта бацьку. Ён казаў, што прыйдзе.* (= рас. *говорить/сказать*).

Разгледжаная пара мае паралель зь дзеясловамі, што азначаюць працэс перадачы і ўспрыманьня слыхавой і зрокавай інфармацыі. Вось прыклады з выразна выяўленым супрацьстаўленьнем значэньня элемэнтаў пары:

глядзець — бачыць (*Доўга глядзеў, але нічога не пабачыў.*)

слухаць — чуць (*Слухаў-слухаў і нічога новага не пачуў.*)

гаварыць — казаць (*Шмат гаварыў, а што сказаў — невядома.*)

Першы элемэнт пары называе працэс перадачы/прыёму інфармацыі, другі паведамляе пра наяўнасьць або зьмест перадаванай інфармацыі (у нашых прыкладах — хутчэй пра адсутнасьць інфармацыі, істотнай для ўяўнага аўтара гэтых выказваньняў).

### ДАСЬЛЕДАВАЦЬ

Часам у некаторых выданьнях гэты дзеяслоў і вытворныя ад яго лексэмы сустракаюцца ў формах *дасьледваць, дасьледваў, дасьледваньне* (як ні парадаксальна, найчасьцей — у кнігах выдавецтва «Навука й Тэхніка», галоўным аб'ектам увагі якога нібыта й маюць быць працэсы, абазначаныя разгляданым дзеясловам). У гэтым выпадку суфіксальнае *-а-* (з суфіксу *-ава-*, цяперашні час на *-ую*) выкідаецца пад уплывам падобных формаў дзеясловаў з суфіксам *-ва-* (цяперашні час на *-ваю*), гэткіх як *наведваць, наведваў*. Магчыма, тут выяўляецца ўскоснае ўзьдзеяньне расейскае мовы, дзе ў адпаведных формах пасьлянаціскныя *-о-* і *-ы-* (*следовать, отведывать*) у выніку характэрнай для гэтае мовы рэдукцыі вымаўляюцца фактычна аднолькава. У беларускай мове такая ўніфармізацыя неапраўданая. *Дасьледнікі дасьледавалі й дасьледуюць, наведнікі наведвалі й наведваюць.*

### ЧАСТКАЎ, РЭШТКАЎ<br>ЧАСТАК, РЭШТАК

Ужываньне ў родным склоне множнага ліку назоўнікаў жаночага роду нулявога канчатка або канчатка *-аў* у бальшыні выпадкаў не падпадае сьціслай рэгляментацыі й залежыць выключна ад патрабаваньняў кантэксту, стылю, сынтаксу або эўфанічных меркаваньняў. Так, мы вольна выбіраем паміж формамі *хат/хатаў, бяроз/бярозаў, кабет/кабетаў*. У некаторых выпадках перавага часьцей аддаецца поўнаму канчатку, прыкладам, пры асновах на *-в: мова — моваў* (а ня *моў*), *сава — соваў* (ня *соў*). У назоўніках з суфіксам *-к-* і зь зьбегам зычных у канцы асновы (*частка, рэштка, вестка*) патрабаваньні эўфаніі відавочна дыктуюць ужываньне нулявога канчатка, пры якім зьбег зычных разводзіцца дапаможным галосным: *частак, рэштак, вестак*. Супадзеньне гэтых формаў з адпаведнымі расейскімі не павінна нас хваляваць.

Сяржук Памылка

# Міхал Анемпадзістаў



Здымак Анатоля Клешчука

## НАЧНАЯ ВАРТА

Вартуе горад
Начная варта
Там дзе ня трэба
Хадзіць ня варта

Сядзіце ціха
Сядзіце дома
Замкніце дзьверы
Ключы схавайце

Закрыйце вокны
Пастаўце краты
Запхніце дзіркі
Замажце поры

Фарбуйце сьцены
Бяліце столі
Чарніце боты
Ваксуйце ваксай

Наводзьце глянец
Зьнішчайце плямы
Працуйце плённа
Прасуйце прасам

Чытайце прэсу
Пішыце скаргі
Лічыце грошы
Натуйце лічбы

Гадуйце рыбак
Гатуйце страву
Варыце ежу
Каштуйце віны

Мацуйце целы
Ратуйце душы
Сьцяліце ложкі
Здымайце порткі

Лягайце моўчкі
Прымружце вочы
Прысьніце сонца
Што ўзыйдзе ранкам

## ГАДАВАНЬНЕ ГАДО

Гэта мы гадавалі Гадо.
— Што з таго. Гэта было даўно!
— Так, даўно. Але ўсё адно
гэта мы гадавалі Гадо.

Мы гатавалі ежу,
давалі пітво
і чыталі кніжкі Гадо.

Да прыкладу, Герадота,
і Бэкета, паміж іншым,
і Ёнэско давалі,
а нажы і нажніцы хавалі.

І вучылі трымацца на хвалі.
А яшчэ даравалі каралі.
На Каляды давалі каралі
і бралі на балі,
калі гэта трэба было
для Гадо, ці для гадаваньня яго.
Альбо для выхаваньня?

Дакла́дна вядома адно:
гэта было даўно.

І такою працяглаю
гэта зрабілася зьявай,
што сталася мройнаю явай
наша жыцьцё.

— Стаміліся мы
ад гадаваньня Гадо,
і сказалі, нарэшце, — до!

А наш гадаванец Гадо
стаў годны і гожы і здатны,
да розных пасадаў прыдатны
і аднойчы апрануў паліто
і ў шыкоўным аўто
паехаў паціху туды,
дзе блакітнае неба
і болей дамоў
фарбавана на бела.

Вось сядзім і чакаем.
Глядзім праз вакно.
Гэта мы гадавалі Гадо.

## ПАН КРОТ (II)

Кратае краты Крот,
Закратаваны ў нары,
А там, на гары
Сёньня сьвята травы,
Там гараць ліхтары,
Дзеці паляць вагні
І лётае зьмей папяровы

Кратае краты Крот,
Пернік кладзе сабе ў рот,
Добра Крату ў нары,
Земляныя муры
Не разбураць зьвяры,
Не зруйнуюць вятры,
І краты, як трэба, —
з дрэва.

А там на гары
Дзеці паляць вагні.
Малыя, дурныя дзеці.
Неспакойна на сьвеце.
Нешта гарыць —
Думае Крот

І нюхае дым.

## ВЕРА АХВЯРЫ

Электрычныя песьні
Трансфарматарных будак
Сьпявае штовечар
П'яны электрык
Электарат галасуе
Электарат абірае
Дотык да току
Гэта так проста
Дотык да току
Раптоўная сьмерць.

Ерэтычныя тэксты
Забароненых кніжак
Чытае штоночы
Новы рамантык
Электарат галасуе
Электарат абірае
Кубак атруты
Гэта прыгожа
Кубак атруты
Салодкая сьмерць.

Нефармальныя формы
Трамвайнае мовы
Стварае шторанку
Гідрамэханік
Электарат галасуе
Электарат абірае
Ключ на 17
Гэта надзейна
Ключ на 17
Брутальная сьмерць.

Таямнічыя знакі
На сьценах будынкаў
Малюе штодзённа
Сын інсургента
Электарат галасуе
Электарат абірае
Веру ахвяры
Верную веру
Веру ахвяры
Ахвярную сьмерць.

## БОЙКА НА ЛУЗЕ

Сустрэліся неяк
Выпадкам на лузе
Юзік і Казік
Казік і Юзік

Казік сьпяшаўся
І не павітаўся
Юзік пакрыўдзіўся
І раззлаваўся

Юзік спыніўся
І запытаўся:
Хто ты такі?
Адкуль ты ўзяўся?

Казік ў адказ
Далікатна змаўчаў
А Юзік пакрыўджаны
У лоб яму даў

Казік за Юзікаў
Гузік схапіўся
І на сырую
Зямлю паваліўся

Вось жа наступствы
Сустрэчы на лузе:
Ходзіць па вёсцы
Бяз гузіка Юзік

## ДЫДАКТЫЧНЫ ЭКСПЭРЫМЭНТ

Звыклая думка аб важнасьці інстытуцый нацыянальнай адукацыі ў дачыненьні да беларусаў набывае сэнс нязвыклы. Практычна ўся Найноўшая гісторыя гэтага народу праходзіць пад знакам нацыянальнага школьніцтва — адбылося яно ці не адбылося. Але дзе ўсталёўваўся хоць на якіх пяць год бесьперапынны працэс беларускай адукацыі — там заўжды вынікі былі фэнамэнальныя. Практычна ўсе выхаванцы Віленскай Беларускай Гімназіі сталіся людзьмі заўважнымі ў беларускай сытуацыі. Усе людзі, якія былі так ці йнакш зьвязаныя зь Беларускай гімназіяй імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945-1950), вызначалі й вызначаюць усю другую палову XX ст. усё заўважнае й цікавае ў беларускай эміграцыі. Таму, падобна, Ян Максімюк — гэты фізык зь Беласточчыны, перакладчык Джойсавага «Уліса», які называе сябе журналістам, узяўся за напісаньне кнігі пра Гімназію ня проста ў якасьці добрасумленнага выканаўцы замовы. Яну Масімюку сапраўды было цікава пісаць пра рэчы, дзе прысутнічае чысьціня эксьпэрымэнту. Вось ёсьць беларуская школа, ёсьць неспрыяльныя зьнешнія абставіны. Але тут, у гэтым Бабілёне й скупішчы народаў, якім выглядала Нямеччына пасьля вайны, беларусам было ня горш і ня лепш за іншых — яны былі ў роўных умовах з 10 мільёнамі displaced persons. Уласная школа дазволіла беларусам, матурыстам Гімназіі, заняць свае жыцьцёвыя нішы на Захадзе — ад спэцыялістаў мілітарнай праграмы марской абароны ЗША да прафэсара хіміі. З набыцьцём нацыянальнай школы Ян Максімюк гарантуе нам інтэлектуальны ўздым.

***Ян Максімюк. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945-1950). — Нью Ёрк - Беласток: Беларускі Інстытут навукі й мастацтва, 1994.***

Ёсьць і іншы аспэкт беларускага школьніцтва. Праз структураваньне масыву ведаў у нацыянальных навучальных асяродках вынікае досыць лёгкае прыняцьце навучэнцамі беларускіх прынцыпаў самаідэнтыфікацыі. У кантэксьце навучаньня гэтыя прынцыпы зусім зразумелыя, простыя (ці робяцца такімі).

Досьвед беларусаў у паваеннай Нямеччыне — гэта таксама досьвед арганізацыйных ды пабытовых посьпехаў. Сярод усіх народаў-выгнаньнікаў беларусы здолелі наладзіць адну зь лепшых адукацыйных сыстэм, царкоўнае жыцьцё, адзін з найлепш з'арганізаваных скаўтынгаў, тэатар, які найбольш спрычыніўся да "збуданьня" станоўчага вобразу беларусаў у вачох іншых нацыянальнасьцяў. Усё гэта стала магчымым, падобна, дзякуючы зусім іншаму папярэдняму жыцьцёваму досьведу тых беларусаў.

Але Ян Максімюк схітрыў. Распавядаючы пра колішнюю Гімназію, ён змадуляваў сытуацыю магчымай пэрспэктывы, калі праблемы людзей адпавядаюць маштабам грамадзкага кантэксту. Праблемы эміграцыі могуць зьвесьціся ў рэшце рэшт да палітычнага дуалізму ў самой эміграцыі, якая ў Нямеччыне падзялілася на "крывічоў" і "зарубежнікаў", прыхільнікаў БНР ды БЦР. Праблемы мэтраполіі, якое б змрочнае ні было там становішча, заўжды ўздымаюць планку. Прысутнасьць дае магчымасьць уплываць на вырашэньне гэтых праблемаў. Пакуль няма пагрозы фізычнага зьнішчэньня, магчымасьці самарэалізацыі ў мэтраполіі большыя. Тады ж, перад заснаваньнем Гімназіі, у беларусаў не было выбару.

Алег Дзярновіч

## БЕЛАРУСКІЯ НАЗВЫ ЗЯМЛІ

Яшчэ адна кніга аб беларускіх геаграфічных назвах, дакладней, аб перанайменаваньнях.

***Лыч Л.М. Назвы зямлі беларускай. — Менск: Унівэрсытэцкае, 1994. - 128 с. — (сэрыя «Унівэрсытэт — школе»)***

У наш час нават такія невялікія па памерах кнігі выдаюцца марудна. На тытульным аркушы стаіць 1994 год, а пісалася кніга, відаць, у эпоху раньняе перабудовы. Замнога штампаў бальшавіцкае прапаганды, выразаў накшталт "не наладжана растлумачальная работа", "работа па пашырэньні ўплываў на масы" і г.д. Канцыляршчынаагітпропаўшчына моцна псуе кнігу, а выратоўвае яе непадробная любоў аўтара да роднай зямлі.

Л.Лыч шмат гадоў, што завецца, "займаецца" тапанімікай і ведае, як зь ёю абыходзіцца. Ён вельмі асьцярожна тлумачыць паходжаньне геаграфічных назваў, лінгвістыку й гісторыю ня гвалціць. Зробім толькі некаторыя заўвагі. Слова "арда" ня варта перакладаць як "калектыў", гэта не брыгада камуністычнай працы, а слова "баба" няма неабходнасьці выводзіць зь цюрскіх моваў.

Цьмянае атрымалася асьвятленьне жыдоўскага (у аўтара — яўрэйскага) насельніцтва і яго тапанімікі ў Беларусі, мусіць таму, што ў кнізе Л.Лыча няма самога слова "жыды". Аўтар дакладна выконвае дэкрэт праўадыра сусьветнага пралетарыяту аб забароне ўжываньня слова "жыд" (ад сябе заўважым, што іншыя найменьні, тыпу "маскалі", "хахлы", "кацапы" Леніным забароненыя не былі). Ну, забаранілі, дык забаранілі, і Л.Лыч меў поўнае права напісаць, што "яўрэі не пакінулі этнонімаў-тапонімаў". Варта толькі дадаць, што раней у Беларусі іх (тапонімаў тыпу Жыдовічы) было калі ня процьма, дык шмат. Дарэчы, возера Жыд цяпер афіцыйна завецца Чырвоным, а, прыкладам, вёска Жыдава Буда — Чырвоная Буда.

Тэма перанайменьняў у навуцы (у псыхалінгвістыцы) амаль не дасьледаваная. А прыклады ёсьць вельмі цікавыя. Калі вёску Плешкі назвалі Росквітам, гэта адно, а вось калі Буй зрабіўся Будзённым — гэта зусім іншае. Тут ужо чуецца нешта былиннае, можа, трэба было б у свой час спалучыць гэтыя дзьве назвы, атрымалася б Буй-Будзённы, як у свой час генэрал Балаховіч называўся Булак-Балаховічам, а потым, увайшоўшы ў смак — Бей-Булак-Балаховічам. Таксама своеасаблівае перайменаваньне.

Л.Лыч рашучы працаўнік большасьці перайменаваньняў. Ён супраць назвы Акцябарскі замест старой Рудабелкі, бо менавіта пад апошняй "яе жыхары ўпісалі яскравую старонку ў барацьбе за Савецкую ўладу". Але ён за новае імя Сормава для нейкай чэрыкаўскай вёскі, бо з гэтага ніжагародзкага (ці ніжненоўгарадзкага?) завода сюды прыехалі "сем яго лепшых рабочых зь ліку 25-тысячнікаў, каб дапамагчы сялянам у сацыяльна-эканамічным пераўтварэньні сельскай гаспадаркі".

Перайменаваньні бываюць розныя, але ўсе — у адным кірунку, дадамо ад сябе.

Шмат піша Л.Лыч і пра вуліцы ў гарадах Беларусі. Назвы нашых вуліц — гэта жах. З Л.Лычом можна толькі пагадзіцца й далучыцца да яго прапановы перайменоўваць гэтыя самыя вуліцы цэлымі раёнамі. Тут Л.Лыч зноў падыйшоў да "яўрэйскага пытаньня": было б добра адрадзіць назвы "Нямецкая вуліца", "Татарская вуліца" і... "Яўрэйская вуліца" (а раней у беларускіх гарадах былі толькі "Жыдоўскія" вуліцы). Прыязныя (у меру) адносіны Л.Лыча да Леніна выявіліся ў прапанове захаваць у Менску вул. Леніна, а Ульянаўскую "аддаць пад ушанаваньне памяці" аднаго з найлепшых сыноў і дачок беларускага народу (каго — не сказана). Слушна аўтар піша пра тое, што калі вуліцам даваць імёны партызанаў, то вуліц на ўсіх ня хопіць. Л.Лыч лічыць за лепшае даваць імёны "праслаўленых радавых людзей пераважна фізычнай працы зь ліку рабочых і сялян" — каб узьняць аўтарытэт працы. Відаць, вуліц павінна хапіць.

Аўтару не падабаецца Сувораў, але не за тое, што ён ваяваў Беларусь, а за тое, што ён памешчык-прыгоньнік. Клясавы падыход.

Студэнтаў Л.Лыч неяк абмінуў, а дарма, бо яны хоць і не працоўныя, а ўсё ж не крывасмокі. Можна было б у Нясьвіжы вярнуць вул. Ленінскай яе былую назву Студэнцкая, ня ў гонар савецкага студэнцтва, а старасьвецкага, бо ў мінулым вяла яна да езуіцкага калегіюма.

Лепшыя старонкі кнігі — аповед Л.Лыча пра тое, як ён змагаўся за вяртаньне вёсцы Нёман яе былой назвы Магільна. Ён свайго дамогся і мог кінуць папрок інтэлігенцыі, што яна маўчала, калі ў 60-ыя гады дзясяткі вёсак згубілі свае гістарычныя назвы. А можа, інтэлігенцыя спадзявалася, што гэта дапаможа будаваць сацыялізм і ўмацоўваць савецкую ўладу? Сам аўтар, здаецца, ня супраць гэтага.

Л.Ш.

# Малавядомы пэрсанаж беларускай міталёгіі

*(Да выхаду «Мітаў Бацькаўшчыны», Менск, 1994)*

"Шчасьліў той, хто збудаваў сабе горную і чароўную мінуўшчыну", — гэтыя словы К.Сваяка прыгадваюцца кожны раз, калі бачыш намаганьні аднавіць беларускі пантэон багоў.

У якасьці фактагічнае глебы, на якой грунтуюцца здагадкі й сьцьверджаньні дасьледчыкаў пры рэканструкцыі пантэону ў першую чаргу бяруцца помнікі старажытнай літаратуры (Летапісы, Жыціі), а таксама шэраг гістарычных прац, якія зь цягам часу сталі ледзь не першакрыніцамі*. Аднак справа ў тым, што ў пералічаных працах падаюцца практычна тыя самыя зьвесткі (часам нават парадак пералічэньня і апісаньня іх аднолькавы), якія не зьяўляюцца вычарпальнымі. Да таго ж, аўтары абмяжоўваюцца ўласна багамі, не прыймаючы пад увагу ніжэйшы дэманалягічны сьвет. Наадварот, працы фальклярыстаў сьведчаць пра тое, што ў сьвядомасьці народу (паданьні, песьні, народныя сьвяты) захаваліся ўяўленьні толькі пра пэрсанажаў ніжэйшай міталёгіі. Гэта, як адзначыў нямецкі філёзаф В.Манхарт, — найбольш устойлівая частка найстаражытнейшых культаў і вобразаў. Сьвет ніжэйшай міталёгіі застаўся ў культуры эўрапейскіх народаў, тады як вышэйшая міталёгія была выцесьненая хрысьціянствам. Спробы аб'яднаць сьвет багоў і сьвет духаў, даць магчымую карціну беларускага пантэону былі зробленыя ў працах беларускіх эміграцыйных дасьледчыкаў**.

Зразумела, сёньняшняя карціна беларускага міталягічнага пантэону няпоўная. Нехта з багоў толькі ўспамянуты, але ні сапраўднае імя, ні роля яго пакуль што не вядомыя. Да прыкладу, у Арбіні: "Між астатніх Багоў яны (славяне) ўважалі Ідала (названаму як Бог, гэта значыць, Бог моцны), пад нагамі якога стаяла адна галава чалавечая, а другая — ільва, у правай руцэ трымаў дзіду, а ў левай шар срэбны. Гэты (Бог) быў адрынуты ад астатніх ідалаў славянскіх". Каго меў на ўвазе аўтар, як адрозьніваў Ідалаў ад Багоў, чаму "быў адрынуты" — загадка.

Мала зьвестак і пра многіх іншых пэрсанажаў ніжэйшай міталёгіі.

Мара, Марэна... Імя гэтай багіні было вядомае ня толькі нашым продкам. У Будызме Мара (Мара Дэвараджа) — увасабленьне зла, спрадвечны вораг будаў і бадхісатваў, спакушае іх і звычайных людзей плоцкім каханьнем, каб перашкодзіць прасьвятленьню. У індуізме Мара — імя чорта. У скадынаваў Мар — злы дух, які зьяўляўся ў выглядзе пачвары, падобнай на кошку або мядзьведзя.

У большасьці славян Мара (Марэна, Марана) уважалася за багіню сьмерці. Яна, як скандынаўскія валькірыі, сьпявала журботна-шчымлівыя мэлёдыі ля нябожчыка. Мара (Мора) заўсёды асацыявалася зь нечым благім: вядзьмарка ў стараславянскай мове, дамавы ў сэрбскай і старажытнаскандынаўскіх мовах, жах — у польскай. У скіфаў слова мар значыла "забіваць"

У славян яшчэ быў злы дух Мара (Маравіт). Ён уяўляўся зь ільвінай галавой, з кароткімі кіпцюрастымі лапамі і целам, якое напалову было як у рыбы, а напалову — як у птушкі. Верагодна, што Маравіт і Марана — мужчынская й жаночая пара багоў, сымбалі пераходу ў загробны сьвет (пар. мор, сьмерць, мёртвы).

І беларусы ведаюць Мару-прывід, Мару-здань ("як мары, белыя бярозы пад сінявой начной стаяць", "сонных вёсак шары, хат амшалых, як мар"). Марай называюць саламяную ляльку, якую на Купальле спальвалі або тапілі ў рацэ.

Далейшы "лёс" Мары (пасьля вогнішча ці ракі) не прасочваўся. Але існуюць здагадкі, што яе сьмерць давала нараджэньне новай багіні. Увогуле, матыў пераўвасабленьня пасьля сьмерці ў славянскім фальклёры — зьява надзвычай распаўсюджаная: дзяўчаты становяцца бярозай, птушкай, кветкамі, браты могуць стаць рэчкамі (Сож і Дняпро). І вось — багіня, дакладней, дэман. Паданьне расказвае так***.

Калі народ сьвяткаваў Купалу, ён сыходзіў да ракі і саджаў дзьве саламяныя лялькі на дубцы, запальваў вакол вогнішча, пасьля лялек купалі й мылі ў рацэ і, нарэшце, запальвалі. Калі лялька падала з свайго дубца, гэта было знакам няшчасьця. Тады яе асьцярожна, здалёк, чаплялі чым-небудзь, накідвалі пятлю і за розныя канцы вяроўкі (так баяліся) валаклі да ракі. Там кідалі ляльку ў ваду, нават не адчапіўшы вяроўкі, і доўга стаялі на беразе, пакуль вада не заглыне здабычу. Часам і такія перасьцярогі не дапамагалі: хвалямі ляльку выкідвала на бераг. І вось, калі яна ляжала на беразе незатопленая столькі месяцаў, колькі чалавек было на сьвеце яе сьмерці, нараджалася Вулішыца (або Вуйма) — жанчына, цела якой было скрозь пакрытае каровіныміваласамі.

Хадзіла Вулішыца заўжды ў белай вопратцы, мела шырокі сплюшчаны нос, чырвоныя вочы, вялізны — ледзь не да вушэй — рот і невялічкі хвост. Мела яна незвычайныя здольнасьці: у імгненьне вока магла стаць вышэйшай за лес або ніжэйшай за траву. Магла быць чорная, а магла — белая, як пажадала. Нават часам паказвалася са сьвіною галавою й шасьцю нагамі.

Жыла Вулішыца ў лясах і на могільніках, любіла старыя млыны й падзямельлі ля рэчак. Але ў лясы хадзіла толькі днём.

Любіла Вулішыца людзей палохаць і зло ім рабіць. За гадзіну перад поўначчу выходзіла з свайго сховішча і бадзялася па вёсках, палохала людзей жудасным голасам. А яшчэ любіла зацягнуць да сябе людзей у сховішча: як убачыць вандроўніка, закрычыць, бы немаўля, застогне, як хворы, заскуголіць, як кінуты сабака. А падманіўшы, Вулішыца моцна хапала чалавека за рукі й лётала зь ім, каб стаміць, а калі той падаў, казытала яго, перакочвала зь месца на месца, скакала праз яго зь віскатам і сьмехам. І так замучвала да сьмерці. Толькі адзін сродак і быў бараніцца: схапіць дубец і біць Вулішыцу, ды трэба было патрапіць па храбту — тады яна завішчыць і адчэпіцца.

Часам бачылі, што ноччу Вулішыца йшла на могільнік і плакала, і стагнала. З магілы выходзіў мярцьвяк, садзіўся побач над магілаю і плакаў. Як толькі зьяўляўся першы сонечны прамень, Вулішыца бегла прэч, а мярцьвяк клаўся назад у магілу.

Была ведзьма, якую звалі Чортава Нага. Адна Вулішыца заказытала яе сына, і Чортава Нага наклала закляцьце, каб ніводная Вулішыца не хадзіла па сьвеце.

Больш пра Вулішыцу (Вуйму), здаецца, нічога не вядома. Таму складана адказаць, хто такі быў мярцьвяк і чаму плакаў з Вулішыцай. Ці ня варта тлумачыць зьяўленьне ў паданьні Чортавай Нагі як выцясьненьне дэмана Вулішыцы з фальклёру. Ня ўсё зразумела і з прыродай Вулішыцы. З аднаго боку, яна "нарадзілася" ад Мары і таксама любіць жыць на могілках, душыць людзей. З другога боку, Вулішыца нагадвае русалак — часам жыве ля ракі, калматая і агідная (менавіта такія былі русалкі ва ўяўленьні паўночных велікаросаў). Тут да месца будзе згадаць словы Д.К.Зяленіна: "У вобразе русалкі нельга ня бачыць адлюстраваньне ўяўленьня пра розныя міталягічныя істоты"****.

Лявон Юрэвіч

*Я маю на ўвазе «Гісторыю» Тацішчава, «Sinopsis» Гізэля, «Roczniki czyli Kroniki slawnego Krolewstwa Polskego» і «Banderia Prutenorum» Длугаша, «Chronika polonorum» Мяхоўскага, «De origine et rebus gestis Polonorum» і «O sprawach, dzialach y wszystkih potocznosciach Korony polskich» Кромэра, «Kronika polska, nowo przez Joachima Bielskogo syna jego wydana» Бельскага, «Kronika polska» Стрыйкоўскага, «Kronika Sarmacyi Europskiey» Гваньіні, «Kniga istoriografija» Арбіні, «Chronica Slavorum» Гельмольдуса.

**Працы а.Л.Гарошкі «Дахрысьціянская вера нашых прашчураў», А.Варлыгі «Чатыры ўрачыстасьці» (Нью Ёрк, 1970), С.Хмары «Аб багох крывіцкіх сказы. Беларуская міталёгія» (Таронта, 1986).

***Зьвесткі ўзятыя з кнігі І.Барычэўскага "Народныя славянскія разсказы», СПб, 1844. С.213-215.

****Очеркі рускай міфологіі, Пг., 1916.

# ЧАТЫРЫ КНІГІ

***Пранчак Л. Беларуская Амэрыка. — Менск: Полымя, 1994.***

Неяк даўно, за часы Майстроўні, прыдушаныя нашымі палітычна-культурналінгвістычнымі "рэаліямі" мы зь сябрамі марылі аб незаселеным востраве, які — хай бы нам далі, а мы б там самі сабе ўладзілі сваю Беларусь, без усіх гэтых "рэаліяў".

Вось жа нешта падобнае сталася паўстагодзьдзя таму, калі ад ваеннага ліхачасься ратаваліся на Захад тыя, хто пад немцамі "засьвяціўся" ў беларускіх нацыянальных структурах, г. зн. больш ці менш рафінаваныя беларускія нацыяналісты (натуральна ж, у звычайным — найшляхотнейшым сэнсе гэтага слова). Пачынаючы з паваенных лягероў для перамешчаных асобаў, асяродзьдзі эмігрантаў гэтае хвалі якраз і былі, а шмат у чым застаюцца й цяпер такімі ізаляванымі астравамі, на жыцьцё якіх амаль не ўплывалі згаданыя "рэаліі". У нас навокал скрозь Беларусь "не такая", а там Беларусь заўсёды была й ёсьць толькі "такая", бо іншая — ужо не Беларусь.

Гэткае штучнае гадаваньне палітычнае нацыі (хай сабе і ў абмежаваных рамках ды ў дзіўных, "экзатычных" умовах) дало свой неацэнны плён: беларуская палітычная эміграцыя паваеннае пары фактычна сфармавала й перахавала комплекс нацыянальна-дзяржаўных ідэяў і прынцыпаў, якія былі перанятыя незалежнікамі на Бацькаўшчыне й на якіх базуецца сёньняшняя канцэпцыя незалежнае эўрапейскае Беларусі. Ня дзіва, што сапраўдную эліту гэтае эміграцыйнае хвалі сёньня складаюць тыя, каму пашчасьціла атрымаць адукацыю ў беларускіх гімназіях канца 40-х гадоў — гэтых навучальных установах "ідэальнае Беларусі", якая йснавала тады ў цяжкіх умовах паваеннае Нямеччыны ў некалькіх беларускіх лягерох для перамешчаных асобаў.

Сёньня, калі нараджаецца ўжо чацьвертае пакаленьне эмігрантаў паваеннае хвалі, гэтая ўнікальная беларуская супольнасьць пачынае ўжо рабіцца гісторыяй. Найбольш балюча гэта адчуваецца, калі гартаеш эміграцыйны друк апошніх гадоў — ён штораз болей страчваць нэкралёгамі. Леанід Пранчак спрабуе ўратаваць што яшчэ даецца, занатоўваючы мамэнтальныя хранікёрскія партрэты амэрыканскіх беларусаў. Хай сабе ня ўсіх ён сабраў у сваёй кнізе — спадзяемся, што ў яе будзе працяг; хай сабе застаюцца несустрэтымі беларусы Вялікабрытаніі, Канады, Аўстраліі — можна й туды дабрацца, пакуль яшчэ выпускаюць; хай сабе пытаньні, а за імі й адказы, маглі б часам быць і цікавейшыя — зь цягам часу аўтар будзе штораз больш паглыбляцца ў прадмет. З гэтай кнігай мы маем цяпер удакумэнтаваны эміграцкі досьвед, які, на жаль, можа яшчэ спатрэбіцца й нам самім...

***Луке Мудищеву привет из России. — Москва, 1995.***

Ананімная паэма Ведзьмака Лысагорскага ў Беларусі ўжо сабрала ўвесь камплект магчымых рэакцыяў — гэта й праблемы з публікацыяй у адкрытым друку, і непазьбежная самаідэнтыфікацыя прэзыдэнта з героем паэмы, і распачатая ў сувязі з гэтым судовая справа супраць «Свабоды», і ганебная "літаратуразнаўчая" экспэртыза бесхрыбетных навукоўцаў, і ўрэшце магчымае вылучэньне гэтага твора на атрыманьне Дзяржаўнае Прэміі.

Тоненькая брашурка зь перакладам паэмы на расейскую мову (да гонару перакладчыка — вельмі добрым) — яшчэ адзін, даволі нечаканы, водгук на нашую літаратурна-палітычную падзею. Ананімныя выдаўцы ананімнае паэмы відавочна ставяць перад сабою вельмі шляхетную, але надзвычай цяжкую задачу — скарыстаўшы гэтую неардынарную нагоду, ўратаваць, захаваць і ўмацаваць беларуска-расейскую нацыянальна-культурную салідарнасьць, пастуляты якой выкладаюцца ў прадмове да публікацыі. Няма чаго й казаць, што салідарнасьць гэткая сёньня выглядае нерэальнай і фантастычнай, асабліва ў сьвятле апошніх падзеяў, калі прататып героя паэмы сваім рэфэрэндумам фактычна распачаў беларуска-расейскую халодную вайну (хоць меў, здаецца, супрацьлеглыя намеры), і ўжо, мабыць, недалёка да тых часоў, калі на менскіх платах замест "Витя, ты с нами" можна будзе прачытаць "Russians go home!" або й што мацнейшае. Дзе ўжо там да салідарнасьці! (Заўважым, між іншым, што ні ў чым не вінаватымі ахвярамі такой "вайны" будуць найперш нашы этнічныя расейцы, якія, думаю, наўрад ці падтрымваюць залагічную русафілію беларускага прэзыдэнта.)

Расейская Дума, як мы ведаем, аднагалосна павіншавала беларускі народ зь перамогай над самім сабою. Дык жа пажадаем маскоўскім дон-кіхотам беларуска-расейскае салідарнасьці посьпехаў у іх самотным і безнадзейным змаганьні.

***Яскевіч А. Сумежжа: Мова. Пераклад. Вытокі прозы. — Менск: Мастацкая Літаратура, 1994.***

У новай кнізе Алесь Яскевіч ня здраджвае сваёй галоўнай рысе — тут, як і раней, як і заўсёды, ён застаецца арыгінальным і непаўторным. Тут, як і раней адчуваецца стары гарт заўзятага адэпта мэтафізікі, шукальніка астралу, барацьбіта за трыумф парадоксу.

Сярод іншых тэмаў у кнізе выразна вылучаюцца дзьве галоўныя — праблема беларускага правапісу і дзейнасьць Скарыныперакладчыка.

Пытаньням правапісу прысьвечана паўсотні старонак, на якіх аўтар вядзе нас блытанымі лябірынтамі сваёй думкі праз гушчары недасканаласьцяў сучаснага правапісу, асьляпляючы бляскам сваёй шырокай эрудыцыі й аглушаючы звонам навукападобнай тэрміналёгіі — бліщчыць і зьвініць вельмі прыгожа, толькі не рызыкуй, дарагі чытач, прыглядацца пільней і прыслухоўвацца ўважлівей — бо наб'еш гузоў аб нечаканыя сьцены або й зусім з таго лябірынту ня выберасься. Даверся аўтару, і ён цябе прывядзе да сьветлае высновы: лепшага за цяперашні правапіс няма й быць ня можа. Quod erat demonstrandum.

Падобны мэтад ужыты аўтарам і ў вялікім скарыназнаўчым тэксьце зборніка. Аўтару загадзя ведамы вынік дасьледаваньня, падрыхтаваныя высновы, застаецца толькі залюляць чытача прыгожай і рэдкай тэрміналёгіяй, пасьля агаломшыць бліскучымі перакнаўчымі прыкладамі — і мэта дасягнутая. Улічым таксама, што Алесь Яскевіч — ці не адзіны ў Беларусі навуковец, які займаецца гісторыка-тэарэтычнымі пытаньнямі й праблемамі біблійнага перакладу, г. зн. валодае тэмаю амаль манапольна, за што заслужыў аўтарытэт добрага знаўцы прадмету. З гэтым можна, бадай што, пагадзіцца, але пры гэтым напрошваецца некалькі пярэчаньняў.

Увесь пафас артыкулу скіраваны на абарону канфэсійнае чысьціні Першадрукара, якога зламысныя навукоўцы запісваюць то ў каталікі, то ў пратэстанты, то ў вальнадумцы. Галоўны аргумэнт аўтара палягае ў тым, што Скарына выбраў у якасьці крыніцы свайго перакладу не "каталіцкую" Вульгату, не "гусіцка-пратэстанцкую" Чэскую Біблію 1506 году, а кірыла-мэтодаўскі тэкст "беларускага праваслаўнага зводу". Слушнасьць Скарынавага выбару шчодра падмацоўваецца цьверджаньнямі аб тым, што царкоўнаславянскі біблійны тэкст быў выбраны як найменш пашкоджаны, найбольш напоўнены "стараіерусалімскімі элемэнтамі".

Што да Скарынавага канфэсійнага паходжаньня й канфэсійнае скіраванасьці ягонае дзейнасьці, дык тут аўтар відавочна ломіцца ў адчыненыя дзьверы. На пераломе XV-XVI ст. праваслаўе было фактычна адзінай рэлігійнай канфэсіяй шырокіх масаў беларускага насельніцтва ВКЛ, яго канкурэнты яшчэ толькі пачыналі выходзіць на гістарычную арэну. Калі б выданьні Скарыны былі разьлічаныя на прапаганду каталіцкіх, гусіцкіх, ерэтычных ці якіх там яшчэ ідэяў, гэта мусіла б быць адкрыта абвешчана ім у тэкстах. Адсутнасьць падобных згадак хутчэй за ўсё сьведчыць аб тым канфэсійным кантэксьце, на які ня трэба было асобна спасылацца — г.зн. аб праваслаўным.

У гэтым сэнсе тэксталягічныя аргумэнты аўтара на карысьць праваслаўя фактычна й не патрэбныя. Разам з тым трэба зазначыць, што з пункту гледжаньня тэксталёгіі й гісторыі біблійных перакладаў, Вульгата не была "каталіцкім" перакладам гэтаксама, як і царкоўнаславянскі пераклад Кірыла й Мэтода ня быў "праваслаўным", а Чэская Біблія 1506 году максымальна адпавядае тэкстуальна Вульгаце, бо якраз з Вульгаты перакладаўся яе прататып, а не зь місьцічнага "мараўскага зводу". Увогуле ж, у разгляданы пэрыяд тэксталягічныя разыходжаньні паміж біблійнымі тэкстамі, ужыванымі ў праваслаўнай і каталіцкай царкве, яшчэ не былі належна вывучаныя (гэта адбудзецца толькі ў сярэдзіне XVI ст.) і ўжо як найменей за імі ня бачылі ніякіх дагматычных перашкодаў. Таму, напрыклад, некаторыя фрагмэнты Генадзеўскай Бібліі безь ніякае шкоды праваслаўю былі перакладзеныя з Вульгаты. Таму, напрыклад, выбар Скарынам асноўнаю крыніцаю Чэскае Бібліі 1506 году зусім ня сьведчыць пра яго "гусіцка-пратэстанцкія" або "каталіцкія" прыхільнасьці.

Магчыма, усе гэтыя заўвагі й непатрэбныя, бо паважаны сп. Яскевіч мог бы проста прыехаць у Вільню, прыйсьці ва ўнівэрсытэцкую бібліятэку, пакласьці перад сабою Біблію Скарыны, Чэскую Біблію 1506 году, Вульгату з камэнтарамі Лірана, Астроскую Біблію, а ў Акадэмічнай бібліятэцы перагледзець зборнікі RKF-19-51 і RKF-19-52 (якія разам зь Дзесятаглавам складаюць "беларускі праваслаўны звод") — і ён як дасьведчаны тэарэтык перакладу за пούгадзіны пераканаўся б, што за аснову ў Скарыны ўзятая Чэская Біблія, а таямнічая царкоўнаславянская крыніца, сьляды якой заўважаюцца ў некалькіх біблійных кнігах Скарынавага выданьня, не ідэнтыфікуецца ні з водным вядомым нам на сёньня тэкстам.

Так што рана ставіць кропкі, рана падводзіць рысы, рана закрываць пытаньні.

***Лексычны атляс беларускіх народных гаворак. Т.2. — Менск: Навука й Тэхніка, 1995.***

Здавалася б, зарана адгукацца ў друку на пяцітомнік, калі выйшаў у сьвет толькі другі яго том. Аднак, па-першае, сёньняшнія рэаліі не вяшчуюць нічога добрага буйным выдавецкім праектам, і наступных тамоў мы можам чакаць яшчэ вельмі доўга. Па-другое, у гэтым выпадку мы маем справу з сапраўднай падзеяй у нашай лексыкаграфіі й культуры.

*Кожны народ мае ўжо хоць бы адзін геніяльны твор — сваю мову.* У ёй запраграмаваны культурны код нацыі, у ёй знаходзіць сваё выяўленьне нацыянальнае бачаньне сусьвету, сфармаванае на працягу тысячагодзьдзяў. Найбольш яскрава й відавочна моўная апрычонасьць выяўляецца ў лексычным фондзе. Аднак пры ўсім багацьці формаў і мэтадаў яго вывучэньня, рэгістрацыі, структураваньня й апісаньня, ніводзін зь іх не дазваляе ахапіць нацыянальную лексыку ва ўсёй разнастайнасьці яе знакаў і сымбаляў, тэксту й падтэксту, сынхранічных і дыяхранічных узаемасувязяў.

Уявім сабе, што нам трэба падабраць слова, каб выказаць нейкае ведамае нам значэньне, або яго адценьне. Нават самы поўны дзьвюхмоўны слоўнік не заўсёды нас уратуе — хоць бы таму, што ўсе замежна-беларускія слоўнікі фрагмэнтарныя й зьнівэляваныя ў беларускай частцы. Да таго ж, існуе безэквівалентная лексыка, якая ня мае адназначных адпаведнікаў у іншых мовах. Не дапамогуць тут і тлумачальныя, гістарычныя, дыялектныя слоўнікі, улучна з І.Насовічам і Я.Станкевічам. Каб знайсьці патрэбнае нам слова, трэба прачытаць іх усе *ад пачатку да канца.* У гэтым хіба ўсіх слоўнікаў, пабудаваных на альфабэтным прынцыпе — яны ня маюць ключа "значэньне⇒слова".

Выйсьцем мог бы стацца гіпатэтычны Ідэальны Слоўнік, які ўяўляў бы сабою сукуп лексычнага матэрыялу ўсіх беларускіх слоўнікаў з шырокім наборам самых разнастайных ключоў-уваходаў у яго: праз форму слова, праз значэньне, праз расейскі (ангельскі, лацінскі) адпаведнік. З кампутэрызацыяй лексыкаграфічнае практыкі задача стварэньня такога слоўніка падаецца не зусім фантастычнай.

Вось жа першай цаглінай у гэткі праект натуральна кладзецца «Лексычны атлас». Ён уяўляе сабою апісаньне геаграфічнай разнастайнасьці сынхранічнага зрэзу нашага лексычнага фонду. З гэтае спробы відаць, які нечакана багаты матэрыял для дасьледніка хавае ў сабе ідэаграфічны мэтад структураваньня лексычнага матэрыялу, памножаны на выразнасьць візуальнае інфармацыі картаў. Шкада, праўда, што ня ўсе карты запоўненыя аднолькава шчыльна; шкада, што вынікі дасьледаваньня зафіксаваны адно ў дзяржаўных межах БССР. Аднак цэласьць застаецца самадастатковай каштоўнасьцю.

Застаецца толькі ўявіць сабе, што гэткімі картамі накрытыя ўсе сэмантычныя палі беларускай лексыкі, што яны зручна й лягічна скласыфікаваныя, што да іх дадаецца трэцяе вымярэньне — гістарычнае, што ўсё гэта дапоўнена дэфініцыямі, камэнтарамі, этымалёгіямі, ілюстрацыямі, іншамоўнымі адпаведнікамі, агульнымі й спэцыяльнымі паказальнікамі і г.д. і г.д. — і мы атрымаем наш Ідэальны Слоўнік. У нармальнай дзяржаве з нармальным урадам і з нармальным стаўленьнем да найбольшага культурнага скарбу нацыі такі праект можна было б ажыцьцявіць за пару гадоў.

Сяргей Шупа

# ВІЦЕБСКІ НУМАР "НН"

**Наступны нумар «НН» будзе прысьвечаны Віцебску. Публікацыі нумару разам нагадваюць інвэнтар страчаных скарбаў. Спаміж найважнейшых публікацый:**

- артыкул Валянціна Калніна пра адметнасьць Віцебска і тутэйшых людзей;
- роспавед Ларысы Міхневіч пра пошукі карціны Сальватора Розы «Закаменаваньне Стэфана»;
- мапа Віцебска мастака Аляксандра Ахолы-Вала, намаляваная па памяці пасьля сямі дзясяткаў гадоў разьвітаньня з горадам;
- канцэпцыя вяртаньня гістарычных назваў віцебскіх вуліц;
- артыкул Алеся Мемуса пра віцебскі храм, які збудавалі ўніяты, зруйнавалі бальшавікі, а адбудоўваць зьбіраюцца праваслаўныя.

**Акрамя гэтага ў наступным нумары «НН» будзе надрукавана апавяданьне Адама Глёбуса, эсэ Уладзімера Арлова ды шмат усяго іншага.**



*Здымак Анатоля Клешчука*

# Падземны горад

Людміла Хмяльніцкая

У постсавецкім горадзе каштоўнасьць кожнага ацалелага гарадзкога аб'екта ўзрастае непамерна. Таму нам сёньня дзіўна чытаць выказваньне краязнаўца мінулага стагодзьдзя Аляксандра Семянтоўскага пра тагачасны Віцебск: "Ні ў самым горадзе, ні ў ваколіцах яго мы не знаходзім колькі-небудзь выдатных помнікаў даўніны; нават зьнешнасьць гораду ніколькі не нагадвае пра ягоны дзевяцівяковы ўзрост". І гэта пісалася ў час, калі ў горадзе яшчэ стаяў храм Дабравешчаньня XII ст., драўляныя крыжовыя цэрквы XVII ст., з паўтузіна вытанчаных мураванак эпохі барока!.. Чытаем далей: "Разглядаючы чароўную панараму Віцебска, мы не знаходзім ні руінаў замкаў, ні сьлядоў умацаваньняў, ні помнікаў старадаўняга дойлідства і архітэктуры". Што ж, у поглядах кожнае эпохі валадараць свае стэрэатыпы.

Для сучаснага дасьледчыка беларускай гісторыі выпадковае адкрыцьцё — ня рэдкасьць, а амаль што закон, які стымулюе да пошукаў і адначасова сьведчыць пра парваную пераемнасьць паміж дасьледчыкамі, стваральнікамі каштоўнасьцяў, пакаленьнямі розных эпохаў.

Ну, скажам, ці знойдзецца сёньня паважны знаўца беларускае архітэктуры, які будзе сцьвярджаць, што ў Віцебску ў першай палове XVII ст. існаваў мураваны храм, пра які мы яшчэ нічога ня ведаем? Думаю, ня знойдзецца. Бо існуюць шматтамовыя археалягічныя напрацоўкі гісторыкаў мінулага стагодзьдзя, чатыры грунтоўныя інвэнтары гораду XVII ст. з амаль падушным перапісам месьцічаў і знакаміты «Чарцёж места Віцебска 1664 году» з выявамі ўсіх найбольш важных гарадзкіх аб'ектаў. І тым ня менш, такі храм у Віцебску існаваў.

Летам 1993 г. падчас археалягічных дасьледаваньняў правіянцкіх складоў (археоляг Ігар Цішкін), што былі ўзьведзеныя на беразе Дзьвіны насупраць колішняга Дольнага замку яшчэ за Кацярынінскім часам, у самым кутку аднаго з шурфоў натыкнуліся на цагляны падмурак, які амаль пад простым вуглом адыходзіў ад будыніны. Невядомы падмурак пачалі трасіраваць і... ўскрылі пяціграниую апсіду мураванага храма готыка-рэнэсанснага тыпу, што быў распаўсюджаны ў Беларусі ў другой палове XVI — першай палове XVII ст. Храм, якога ў Віцебску проста не магло быць — рэчаіснасьць. Вось ягоная цэгла, сутарэньні, кавалак кафлі з выяваю вострал істага рэнэсансовага вянка, такога самага, як на тытульным аркушы «Статута» 1588 году...

Што гэта быў за храм: царква, касьцёл або рэфармацкі збор? Адказаць на гэтае пытаньне сёньня, без архіўных росшукаў, немагчыма. Чаму, малюючы горад XVII ст., ваявода Валконскі не пазначыў храм на «Чарцяжы»? Хіба не збаяўся ён гняўлівасьці царскай, хуткай на пакараньне за недагляд і хлусьню? Напэўна, гэтай самай гняўлівасьці й збаяўся, бо подпіс да ўсяе працы загадаў зьмясьціць не на адвароце, а ў зручным для царскіх вачэй месцы — тым самым, дзе быў бы намаляваны невядомы сёньня храм. Чаму храм не патрапіў ні ў адзін з чатырох інвэнтароў места? Хутчэй за ўсё таму, што меў вельмі непрацяглую гісторыю існаваньня.

Гісторыя зьяўленьня й існаваньня невядомае віцебскае сьвятыні пакуль што ахутаная таямніцай. Ня меншай загадкай выглядае і гісторыя яе зьнішчэньня. У 1774 годзе на месцы храма павінен быў будавацца адзін з карпусоў так званых "саляных магазейнаў" — казённых харчовых складоў, якія на той час паўсюдна ўзводзіліся ў набытых гарадах Расейскае імпэрыі. Фама Лорэнс, віцебскі прэзыдэнт, замест таго, каб выказаць новай уладзе абурэньне і пратэст з нагоды зьнішчэньня хрысьціянскага храма, разам з членамі гарадзкога магістрату абмежаваўся толькі ацэнкай заняпалае царквы ў 200 рублёў. Дваццаць пяць тысячаў цаглінаў са старое царквы былі выкарыстаныя для вымуроўкі сьценаў казённых складоў. Ацалеў толькі цагляны падмурак храма, які, як затанулую Атлантыду, паглынулі нетры зямлі.

Падземны Віцебск... За дзесяць стагодзьдзяў гэты горад зрабіўся нашмат багацейшы за здратаваны войнамі й злой воляй Віцебск надземны. На ягоных вуліцах стаяць дасканалыя й няісныя для нас пабудовы. Кожнаму ўважліваму падарожніку ён можа падараваць фізычнае судакрананьне з гісторыяй: па вузкіх вітых усходах дазваляе сысьці ў сутарэньні рызьніцы, якой ужо няма; патрымаць руку на пляскатай, шурпатай ад сьлядоў рошчыны цагліне з адбіткам сабачай лапы. Зь ягоных падмуркаў можа ўзрасьці толькі колішняя прыгажосьць. Падземны горад — запаведнае сховішча каранёў нашае культуры.



*Малюнак Аляксандра Міхайлюкова*



Здымак Алены Адамчык

уладу захапілі бальшавікі. Тады сьцягі былі зьнятыя й захоўваліся ў Слуцкай гімназіі.

Гэтая пастанова Беларускага Нацыянальнага Камітэту была аднагалосна ўхвалена на згаданым паседжаньні прадстаўнікамі ўсіх беларускіх арганізацыяў, што йснавалі на той час.

На Першым Усебеларускім Зьезьдзе гэтае пытаньне не разглядалася. Аднак бел-чырвона-белыя сьцягі віселі абапал трыбуны падчас усёй працы Зьезду.

Пазьней Рада Беларускай Народнай Рэспублікі аднадушна ўхваліла пастанову Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Менску і «Пагоня» сталася нацыянальным гербам, а бел-чырвона-белы сьцяг нацыянальным сьцягам Беларускай Народнай Рэспублікі.

Радаслаў Астроўскі

*З кнігі: Wiktor Ostrowski. The Ancient Names and Early Cartography of Byelorussia. London, 1969. P.2.*

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГЕРБ І СЬЦЯГ БЕЛАРУСІ

У сакавіку 1917 году ў Менску быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт, які месьціўся на вуліцы Захараўскай, 25.

На адным з сваіх паседжаньняў 25 сакавіка 1917 году Беларускі Нацыянальны Камітэт разгледзеў пытаньне аб нацыянальным гербе й нацыянальным сьцягу Беларусі і пасьля грунтоўных развагаў і спрэчак прыняў гэткую пастанову:

1. Дзеля таго што амаль усе гарады Менскай губэрні ўжывалі ў сваіх пячатках старадаўнюю ПАГОНЮ, было пастаноўлена захаваць гэтую спадчыну Вялікага Княства Літоўскага. Камітэт аднагалосна прыняў «Пагоню» ў якасьці дзяржаўнага герба будучай незалежнай Беларусі.
(Я, дарэчы, прыпамінаю, што ў часы, калі я быў павятовым камісарам у Слуцку, Слуцкая Гарадзкая Управа аж да самага кастрычніцкага перавароту 1917 году ўжывала пячатку з «Пагоняй».)

2. Дзеля таго што ў беларускім народным мастацтве пераважаюць белыя й чырвоныя ўзоры, было палічана дарэчным ужыць гэтыя колеры ў беларускім нацыянальным сьцягу. Такім чынам Камітэт пастанавіў, што сьцяг мусіць складацца з трох гарызантальных палосаў аднолькавае шырыні — белай, чырвонай і белай, і што даўжыня яго ўдвая большая за шырыню. Камітэт даручыў Вандзе Лявіцкай (дачцэ пісьменьніка Ядвігіна Ш.) пашыць некалькі такіх сьцягоў, якія пасьля былі разасланыя ва ўсе паветы Менскай губэрні. У Слуцку я атрымаў такі сьцяг зь Менску ў траўні 1917 году, на ім залатымі літарамі быў вышыты надпіс "Няхай жыве вольная Беларусь!" Гэты сьцяг быў вывешаны над сядзібай павятовага камісара, а ягоная копія лунала над Гарадзкой Управай аж да 15 лістапада 1917 году, калі

# СЬЦЯГ

На белым прапары караля франкаў Хлёдвіга было тры жабы. Пад гэтым сьцягам заснавальнік дынасты Мэравінгаў, які нам яшчэ са школы вядомы сваёй жорсткасьцю, стварыў магутную дзяржаву, запачаткаваўшы новую Эўропу. Барбарскія плямёны, нібы тры жабы, што выскачылі з балота, зьнянацку зьмянілі і мапу Эўропы і яе цывілізацыю.

Мінулі часы, і барбары былі палагоджаныя з антыкай праз унівэрсум Веры. Знайшліся і ўнівэрсальныя сымболі. Жабы выклікалі гідлівасьць. Застаўся белы колер. Ён адзіны для кожнага эўрапейца стаў раўназначны сьвятлу, чысьціні, вечнасьці. Раўназначны Абсалюту.

Іншыя колеры ўсё ж амбівалентныя. Зеляніна, што сваім зіхоткім зьзяньнем нагадвае нам пра таямніцу Уваскрашэньня, адвечнага колазвароту жыцьця, можа нагадваць і пра колер лускі гада спакусы, і пра бляск вачэй нячыстага.

І ў арабаў першы сьцяг быў белы. Проста чыста белы. І толькі Мухамэд узяў сабе за сьцяг зялёны колер раю. У ісламскім выраі ёсьць чатыры цёмна-зялёныя сады, у прахалодзе якіх на зялёных падушках праведныя бавяцца з гурыямі. Чырвань ужываецца ў ісламе як знак гарачае крыві герояў. Мухамэд забараніў абмываць кроў зь целаў палеглых за веру — бо іх кроў ня бруд. Шалёнае, на наша вока, спалучэньне зялёнага з чырвоным азначае сьмерць у баі за веру. Аднак застаўся белы. Белы колер недасяжнасьці. Колер ветру, поўні і зораў.

Рокуэл Кент быў уражаны тым, што эскімосы Грэнляндыі вызначаюць дзясятак адценьняў белага. Бо яны жывуць сярод белага.

Для нас белы — гэта дар. Травеньская квецень і першы сьнег — яны чаканыя й нетрывалыя.

Белы колер у царкве — сымбаль беззаганнасьці, колер Марыі.

Ад Жаны д'Арк да ўзяцьця Бастыліі белы колер быў для французаў знакам еднасьці дзеля чагосьці вышэйшага. Напалеон прыгадаў пра гэта, калі ствараў свой новы сьцяг (такая ўжо завядзёнка), толькі рассыпаў па белым залатых пчолаў. Мілых, працавітых плебейскіх казурак. Зрэшты, гэты "новы" сьцяг зьляцеў у нябыт з паразаю імпэратара Францыі... Хоць, не... Ён застаўся на этыкетцы «Corvoisier», любімага каньяка імпэратара. Застаўся белы. Праўда, ужо аблямаваны абапал сінім і чырвоным. А ад гербу Францыя з часам амовілася наогул, пакінуўшы сабе эмблему рэспублікі — égalité, fraternité et liberté.

Чырвань для хрысьціянаў — сымбаль гневу Госпада, крывавага жніва зямлі, а таму зь ёю трэба абыходзіцца асьцярожна. Ад часоў канца Рыму й да Францускай рэвалюцыі хрысьціяне асьцерагаліся барваў. Чырвань для хрысьціянаў — сымбаль ахвярнае крыві, пралітае як ачышчэньне, а таму зь ёю трэба абыходзіцца ашчадна. Чырвоныя строі мелі толькі высокія іерархі царквы, а каралі хавалі чырвань пад мантыю.

Беларусы імкнуліся аздабляць свае строі менавіта чырвоным. Ашчадна і пекна. Бо чырвонае — краснае. Бо так рабілі спрадвечна.

XX стагодзьдзе апранула людзей у хакі — колер распаду. Адрынуўшы засьцярогі, сацыялісты спавілі Эўропу ў барвовы кумач. "... Все, как один умрём..."

Беларусь у спадзеве на цуд ачышчэньня й выратаваньня абрала чырвань на белым. Немагчыма выводзіць радавод нашага сьцягу ад нейкае кропкі ікс. Гэты сьцяг быў створаны як абсалют нацыянальнае традыцыйнае эстэтыкі. І быў у 1917 адроджаны без ваганьняў.

Паводле старой традыцыі вэксэлёгіі, сьцяг мусіць уяўляць расклад колераў герба. Нямецкі сьцяг — чорны арол з залатымі лапамі й дзюбаю на чырвоным полі. Польскі — белы арол на чырвоным шчыце. Гэтак у старой Эўропе... Белы вершнік на белым кані на тле чырвонае тарчы — бела-чырвона-белы сьцяг.

Усьлед за камуністамі кумач упадабалі фашысты, скасаваўшы нацыянальныя сымбалі, дэманструючы сваю рэвалюцыйную бязбоязнасьць. Аднак па вайне абедзьве Нямеччыны вярнуліся да колераў нацыі, а не нацыстаў. Як і ў астатніх эўрапейскіх сатэлітаў чырвонае Расеі, хапіла розуму й густу не выварочваць прыродна дадзеныя нацыянальныя знакі.



Здымак Анатоля Клешчука



Здымак Алены Адамчык

Як можна ставіцца да цноты першага сьнегу ці да шумавіньня травеньскіх садоў? Адзін чалавек мітынгаваў пад нашым сьцягам, пасьля ён сам першы прынес яго з пляцу ў залю паседжаньняў ВС, пасьля цалаваў яго, як даваў прэзыдэнцкую прысягу быць сумленным, затым ён яго зьнікбіў і разьдзёр... Як можна ставіцца да гэтага чалавека?

Псыхолягі, фізыкі, афтальмолягі добра вывучылі мэханізм успрыманьня колераў чалавечым вокам. Ён абумоўлены рознай рэакцыяй сьветаадчувальных элемэнтаў вока на сьвятло розных даўжыняў хваляў і інтэнсіўнасьці з улікам раней атрыманае інфармацыі, якую зьберагае наша памяць. Колер, які бачым мы — выбранае паглынаньне матэрыяй часткі прамянёў сьвятла. Зрушэньне паглынаньня ў бок доўгіх хваляў завецца паглыбленьнем колеру. Пры спалучэньні "паглынутага" асноўнага колеру з бачным дадатковым атрымліваецца эфэкт найбольшага раздражненьня, "хаосу" хваляў, якія ўспрымае нашае вока (жоўты зь фіялетавым, чырвоны з зялёным ды г.д.) Чалавек з нармальным сьветаўспрыманьнем звычайна пазьбягае ў побыце такіх спалучэньняў. Фіялетавых пінжакоў на жоўтых кашулях, зялёнага сьвятла ў чырвоных пакоях...

Белы таксама не дае спакою. Як раптоўная ціша. Белы — ня колер. Белы — толькі прадчуваньне. Белы з чырвоным — заўсёды неспадзяванка чаканага, абавязковага. Зімовы вечар, тумановы ранак, дарожны знак, лякарня, кветка вішні, кавалак сала...

Антон Сіюль

# НАРОД ХОЧА, КАБ

*На пытаньні «НН» адказвае прафэсар Валеры Чэкман*

**«НН»**: Спачатку Вы аб'ехалі з анкетамі ўсю Літву, цяпер завяршаеце працу ў Беларусі. У чым сэнс Вашага праекту?

— Гэты праект прапанаваны Інстытутам паліталёгіі Жэнэўскага ўнівэрсытэту. Мы выконваем пілатажныя апытаньні ў Беларусі й Літве і называем свой праект (вынікова праца будзе на ангельскай мове) «Фармаваньне новага геапалітычнага арэалу ў Цэнтральнай Эўропе». Г.зн. фармаваньне новай сьвядомасьці людзей у арэале, які яшчэ нядаўна быў цалкам камуністычны. Мы вывучаем мысьленьне людзей, іх арыентацыі. Больш шырокі праект будзе ахапляць Прыбалтыку, Беларусь, Украіну й Польшчу. Але пакуль мы толькі зьбіраем анкеты. Падагульненьні робіцца ў Жэнэве.

**«НН»**: Колькі ўсяго Вы ахапілі народу ў Беларусі?

— Калі браць толькі анкеты, то гэта на сёньня 350 чалавек — тых, зь якімі можна было пагаварыць. Бо людзі адмаўляліся. У Літве нідзе не было такога працэнту адмаўленьня, як у Беларусі. Калі я йду ва ўстанову, то чым вышэйшая ўстанова, скажам, аблвыканкам, тым хутчэй я магу чакаць, што працэнтаў 70 людзей адмовяцца. У гарвыканкаме можа адмовіцца палова. У інстытутах, у школах адмаўляюцца меней. А калі мы ідзем да людзей у кватэры, то найлепей працуецца ў інтэрнатах.

**«НН»**: Чым Вы тлумачыце тое, што людзі адмаўляюцца?

— Нельга растлумачыць нечым адным. Але галоўнае — гэта вынік расчараваньня людзей у тым, што іх голас штосьці значыць. Падставовая прычына, якой чалавек матывуе сваю адмову: я не хачу ўвогуле ўдзельнічаць у тым, што робіцца.

**«НН»**: А ў Літве хочуць?

— Так, у Літве больш актыўны настрой. Чалавек адчувае, што ад яго можа штосьці залежаць. У Літве я тлумачыў: я не перакананы, што мы штосьці зьменім, але думаю, што нашы вынікі прымусяць тых, хто мае ўладу, зьвярнуць увагу на нашыя дасьледаваньні, а значыць, на нашу думку і на вашу думку. У Беларусі гэты нумар не праходзіць. "Ніхто на маю думку зьвяртаць увагі ня будзе"...

**«НН»**: У чым самае істотнае адрозьненьне сьвядомасьці літоўцаў і беларусаў? У тым, што беларусы — не рэлігійныя людзі?

— Гэта толькі адзін аспэкт саветызацыі. А ўсё ў Беларусі, абсалютна ўсё, тлумачыцца дзьвюма фундамэнтальнымі прычынамі. Па-першае, вялізнай пралетарызацыяй насельніцтва. У Літве такой не было. І дзе ў Беларусі гэтая пралетарызацыя была меншая, скажам, на захадзе, у Горадні, там сытуацыя псыхалягічна падобная да літоўскай. Людзі могуць гаварыць тое самае, што і на ўсходзе, але — зусім іншы псыхалягічны клімат. А на ўсходзе — вяршыня палітычнай творчасьці бальшавізму. Нават



Валеры Чэкман (нар. 1937), загадчык Катэдры Славянскай Філялёгіі Віленскага Унівэрсытэту, кіраўнік Навуковага цэнтру этналінгвістычных літоўска-славянскіх кантактаў, прафэсар. Беларусіст паводле кандыдацкай дысэртацыі, славіст паводле доктарскай.

расейская глыбінка ў пэўным сэнсе культуралягічна захавалася лепш.

Пралетарызацыя насельніцтва — сьвядомасьці, культуры людзей — гістарычна недалёкая прычына. Гэта не адсутнасьць культуры, а пралетарская культура й сьвядомасьць: усе роўныя, не высоўвайся, усе аднолькавыя, усе аднолькава бедныя. Яна ў Беларусі ствралася й падтрымлівалася ўвесь час спасылкамі на гісторыю, маўляў, беларусы заўсёды былі бедныя, няшчасныя, а цяпер — паглядзіце, як мы жывем, таму — што робім, тое й добра.

Па-другое, калі гаварыць аб сучаснай палітычнай сытуацыі, дык абсалютна ўсё тлумачыцца тым, што ў Беларусі незакранутаю засталася старая намэнклятура, яе сувязі, кругавая абарона. Людзі засталіся тыя самыя. Зьмянілі трохі пасады, але спосаб іх дзейнасьці, мэнтальнасьць захавалася савецкая. У намэнклятуры ёсьць адна мэта — рэстаўрацыя таго, што было, іншага яны ня бачаць, і з гэтай мэтай выкарыстоўваецца абсалютна ўсё. Старая ідэалёгія перастала быць татальнай, а для намэнклятуры ўсё, што не татальнае, — варожае. Не дапусьціць ніякай пераацэнкі, ніякай новай развагі, казаць толькі тое, што казалі раней. У гэтым сэнсе сьвята Перамогі выкарыстана ідэальна. Вэтэраны кажуць: мы ваявалі за Савецкі Саюз, давай назад Савецкі Саюз.

**«НН»**: Так кажуць Вашыя рэспандэнты?

— Не, гэта ў радыё. Справа ў тым, што пасьля дзясятага вэтэрана я адмовіўся размаўляць з вэтэранамі. Яны страшна агрэсіўныя. Сустракаюць нас словамі: кінцеже вы гэта, займайцеся вы справай, мая думка зразумелая й ясная, мая думка такая, як ва ўсіх. Што, вы ня ведаеце думку нашага народу? Мы хочам так, як было раней. Усё! Мы за гэта ваявалі, змагаліся, і ніякай другой думкі быць ня можа. Што вам яшчэ трэба вывучаць?

**«НН»**: Якая ўзроставая група падалася Вам найбольш нармальнай?

— Я менш за 20 гадоў ня браў. І найбольш нармальная група — ад 20 да 30 гадоў, можа да 35. Моладзь. Гэтыя людзі нармальна рэагуюць, адэкватна адказваюць, разважаюць. Ёсьць кантакт. Ад 35 да 50 гадоў — большая ці меншая абыякавасьць, скаванасьць, страх перад тым, што робіцца, таму што сярод гэтых людзей вялікі працэнт беспрацоўных, часткова працоўных, у іх дзеці, у іх сем'і. А ўжо за 60 гадоў — стопрацэнтная агрэсія, і калі ўдаецца атрымаць адказы на анкету... З кім вы хацелі б каб супрацоўнічала Беларусь? З Расеяй. — Ёе астатнія? Ня трэба, ня мае ніякага значэньня. З кім вы хочаце каб быў ваенны абаронны саюз? З Расеяй. Усе іншыя нам здрадзілі й здрадзяць. Можна сказаць, што вы да пэўных нацыянальнасьцяў адчуваеце пэўныя пачуцьці? Якія могуць быць яшчэ пачуцьці? Усе роўныя, я ўсіх паважаю і г.д. Усё... Я перастаў. Навошта такія анкеты? Я магу сам сесьці, сотні назапаўняць, і гэта будзе зусім дакладна.

**«НН»**: Пракамэнтуйце, калі ласка, рэлігійную сытуацыю.

— На ўсходзе, на Гомельшчыне, на Магілёўшчыне амаль 80% адказваюць, што яны можа пэўныя пачуцьці й маюць да рэлігіі, але ў царкву ня ходзяць, і ўвогуле для іх гэта ўсё ня мае значэньня. Прычым, я мяркую, што пэўныя адносіны ўсё ж ёсьць, таму што калі пытаюся, як вы ставіцеся да баптыстаў — да баптыстаў усе ставяцца велымі адмоўна. Баптысты ўспрымаюцца як нейкая агрэсіўная сіла. Іх актыўнасьць успрымаецца як агрэсіўнасьць. Царква... яе няма. А баптысты штосьці ходзяць, штосьці прапануюць. Чаго яны ходзяць?! За гэта баптыстаў не перавараваюць амаль 90%.

**«НН»**: А самі баптысты што?

— Я зь імі размаўляў толькі ў Горадні. Гэта вельмі цікавыя людзі, у добрым сэнсе фанатычныя. Яны шмат спраў добрых робяць. Толькі адзінае, што мне ў баптыстах падалося дзіўным анахранізмам, што яны ўсю сваю прапаганду вядуць на расейскай мове. Для іх беларуская мова не йснуе. А яны ж беларусы...

**«НН»**: У якой часткі Вашых рэспандэнтаў Вы бачылі найбольшы покліч да рэлігіі?

— Беларускія каталікі больш актыўныя ў практыкаваньні рэлігіі. А праваслаўе больш жывое там, дзе яно сутыкаецца з каталіцызмам, на захадзе. А там, дзе яно ня мае такіх кантактаў, яно фактычна памерлае, яго няма. Таму што й цэрквы разбураныя, і далёка да іх, і папоў няма...

**«НН»**: Што Вы думаеце пра беларускую шматканфэсійнасьць? Усе нацыі вакол Беларусі будавалі сваю нацыянальную дзяржаўнасьць, складваліся як нацыі на падставе адной пэўнай канфэсіі. Калі літоўцы былі хрышчаныя ў каталіцкоў, яны ўсе так і засталіся каталікамі, палякі — таксама, расейцы ўсе праваслаўныя. А ў Беларусі народ разьбіты на некалькі канфэсій.

— У анкеце не закладзеная такая задача. І таму мая думка будзе грунтавацца не на выніках дасьледаваньня. Праваслаўе ня можа быць нацыянальнай рэлігіяй, таму што яно на расейскай мове. Калі яно цяпер — пераважная рэлігія, то яно таксама ўносіць разброд у думкі людзей. Людзі разважаюць: вось мы, беларусы, гавораць, што трэба пераходзіць на беларускую мову, дзяцей пасылаць у беларускую школу... А праваслаўе ўсё йдзе па-расейску. Ні праваслаўе, ні каталіцызм, тым больш, ня могуць прэтэндаваць на агульнанацыянальную рэлігію. Такой рэлігіяй мог бы быць баптызм, пратэстанцтва. Але яно яшчэ да гэтага часу йснуе ў сьвядомасьці людзей як сэкта. А пра тых, хто тэарэтычна прэтэндуе на ролю нацыянальнага сабору — пра уніятаў — проста ніхто ня ведае. У масе людзей. Як да ўніятаў ставіцеся? Звычайны адказ: ня чуў пра іх нічога.

**«НН»**: Да каго ставяцца больш адмоўна?

— Да баптыстаў. На другім месцы мусульманства. Вось дзьве рэлігіі, на якія часта даюць нэгатыўныя адказы. Да сваёй традыцыйнай рэлігіі звычайна — сымпатыя або вялікая сымпатыя. У моладзі больш сымпатыі да рэлігіі. Але й тут поўны разнабой. Часам сустракаюцца нават беларусы, якія адчуваюць сябе расейцамі і мова расейская, але ходзяць у каталіцкі касьцёл. Я думаю, што цяпер адносіны да рэлігіі толькі фармуюцца. Цяпер ідзе канкурэнцыя рэлігій.

**«НН»**: У Вашай анкеце ёсьць пытаньне пра адносіны да супрацоўніцтва зь іншымі краінамі. Пракамэнтуйце, калі ласка. Вы сказалі, што павальна ўсе за Расею?

— Вельмі рэдка сустракаецца так, што чалавек ня тое каб не хацеў супрацоўніцтва з Расеяй, а — "гэта ня тая дзяржава, зь якой трэба супрацоўнічаць у першую чаргу". Я з такімі заўсёды доўга размаўляў. І гэта — вельмі цьвярозая ацэнка таго, што робіцца ў Расеі. Яны разумеюць, што там нешта таксама дрэннае зрабілася і Расея нам ня дужа дапаможа. 99% адказаў, без усякай канкурэнцыі, — з Расеяй у першую чаргу.

**«НН»**: З кім "ня трэба" ў першую чаргу?

— З Каўказам, з Грузіяй. Потым ідзе Іран, Кітай, — далёкія краіны, дзе адбываецца штосьці незразумелае, з тымі "ня трэба". З суседзяў, больш за ўсё нэгатыўных адказаў — зь Літвой. "Ня трэба". З агульнага кантэксту я бачу, што йснуе такая палітычная ўстаноўка — ня трэба з Прыбалтыкай увогуле мець нічога агульнага.

**«НН»**: Чым можна вытлумачыць такую безразважную адданасьць Расеі?

— Я думаю, што гэта праблема нумар адзін. Калі яе раскручваць, можна раскруціць усю структуру нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў.

**«НН»**: Ці можна сказаць, што гэта ад няведаньня іншых суседзяў — Польшчы, Літвы, Латвіі?.. Калі людзі адгароджаныя ад сьвету і прапаганда паварочвае іх толькі ў адзін бок...

— Тое, што робіцца ў сродках масавай інфармацыі, адпавядае таму, што людзі адчуваюць. Я часам думаю, што тая інфармацыя, якая йдзе ў радыё й тэлевізіі, толькі падыгрывае таму, што сапраўды йснуе.

**«НН»**: Вы хочаце сказаць, што ёсьць нейкая прыродная цяга, пачуцьцё роднасьці, адзінства?

— Гэта ня столькі прыродная цяга, бо прыродная — па крыві, больш глыбокае пачуцьцё. Справа ў тым, што для вялізнай колькасьці беларусаў у гарадох, фактычна для ўсіх, па ўсіх адзнаках, якімі мы апісваем прыкметы роднай мовы, расейская мова — родная. Я фактычна не знайшоў сем'яў, у якіх беларуская мова была б мовай сям'і.

**«НН»**: Як Вы можаце ацаніць шанцы беларушчыны на будучыню? Ці рэальна, каб увесь народ загаварыў па-беларуску?

— Нерэальна пакуль што. Але справа ня толькі ў мове. Мова толькі сродак. Ня тое галоўнае, што яны сталі рускамоўнымі ці думаюць, што яны рускамоўныя ці хочуць быць такімі. Справа ў тым, што яны сталі носьбітамі расейскай культуры. Расейская гісторыя — гэта іх гісторыя, і старая і новая. Расейская рэвалюцыя — гэта іх рэвалюцыя. І ўсе войны расейскія — гэта іх войны. Літаратура расейская — гэта іх літаратура. Таму я й кажу, што яны так моцна хочуць быць з Расеяй не таму, што яны рускамоўныя, а таму, што яны рускакультурныя людзі.

**«НН»**: Ці можна гэта называць культурай?

— Называйце гэта "расейскі культурны комплекс"... І як такія, яны не ўяўляюць, як яны могуць быць незалежнымі. Вось адкуль вастрыня рэакцыі. Для іх страціць цесныя сувязі з Расеяй — гэта фактычна ня мець падтрымкі гэтай сваёй культуры. Значыць, ім трэба пераходзіць на іншую культуру, успрымаць, адаптаваць іншыя культурныя каштоўнасьці. А гэта ўжо сапраўды вельмі цяжкі працэс.

**«НН»**: Але ці так патрэбная чалавеку гэтая падтрымка? Ён выходзіць са школы і яму часта ўжо не спатрэбваюца Пушкін зь Лермантавым і Іван Жахлівы зь Іванам Калітом...

— Але застаецца радыё, застаецца тэлевізія. Ён жыве ў гэтым атачэньні. Беларускую тэлевізію ніхто ня хоча глядзець. Таму людзі так востра перажываюць падзеі ў маскоўскай думе, а калі пабілі групу дэпутатаў у беларускім парляманце, гэта людзей быццам бы й не кранула.

**«НН»**: Можа, ня ведалі?

— Ведалі! Але ніхто не адрэагаваў на гэта як на сур'ёзнае здарэньне. Ну, падумаеш! Які гэта парлямант... Гэтая поўная палітычная абыякавасьць да свайго й паказвае ўсю іх арыентацыю — спачатку культурную, пасьля палітычную.

**«НН»**: У сувязі з гэтым скажыце пра адносіны людзей да беларусізацыі, да тых партый і таварystваў адраджэнскага кірунку, хто прадстаўляе новую нацыянальную культуру і ідэалёгію.

# БЫЛО ЯК РАНЕЙ



— Я вельмі цікавіўся гэтым пытаньнем, задаваў яго і студэнтам, і інтэлігенцыі, і рабочым. Людзі або не цікавяцца, або да іх не даходзіць, а можа тое й другое разам. Увогуле ўся адраджэнская прэса йдзе на беларускай мове, а гэта ж трэба яшчэ прачытаць па-беларуску... Як казаў адзін магілёвец, што яны там гавораць у Менску, мне жа нужна са славаром эта ўсё перавадзіць. Новыя словы, новыя паняцьці робяць на іх уражаньне новай мовы і выклікаюць няпрыязь — лепш з гэтым ня зьвязвацца. У мяне такое ўражаньне, што новае адраджэньне не пайшло, бо не зразумелася, ня выклікала рэакцыі. Я нават пачаў грэшным чынам думаць, што можа тое самае варта было б запусьціць і на расейскай мове. І, мне здаецца, знайшліся б людзі, якія б падтрымалі. Чаму? Ва ўсіх гарадах, дзе я працаваў, сустракаецца нямала людзей, у якіх бацькі — расейцы (па пашпарце, па мове, і адчуваюць сябе расейцамі), а самі яны пішуцца беларусамі. Сын ці дачка расейцаў у пашпарце запісаны беларусам і адчувае сябе беларусам, але мова расейская. Акрамя іх ёсьць беларусы, якія па пашпарце беларусы, адчуваюць сябе расейцамі, мова расейская і маюць сымпатыі да адраджэньня.

**«НН»**: На што людзі ўвогуле спадзяюцца?

— У мяне такое ўражаньне, што беларусы былі б на 90% шчасьлівыя, калі б яны заўтра ўсе прачнуліся раніцай, і было б так, як раней. Няма ніякага арыентацыі ў будучыню, толькі назад. Але гэта ненатуральна для чалавека...

**«НН»**: Прайшло пяць гадоў. І калі пяць гадоў назад можна было адкінуць мінуўшчыну і глядзець у будучыню, як літоўцы зрабілі, то тут за пяць гадоў усё тое нэгатыўнае, што было пры мінулым ладзе, проста забылася... І памятаецца толькі добрае.

— Гэта сапраўды так. І цяпер можна бачыць, як рыхтуецца рэстаўрацыя. Рэстаўрацыя СССР, камуністычнай партыі, усіх структураў — усяго, што было. Увогуле ў гісторыі ёсьць прыклады рэстаўрацыі таго, што было. Рэстаўрацыя каралеўскай улады ў Францыі, пасьля Кромвэля — у Англіі і г.д. І мне здаецца, Беларусь — адзінае самае рэальнае асяродзьдзе для таго, каб зрабіць спробу рэстаўрацыі таго, што было. Псыхалягічна людзі гэта ўспрынялі б нармальна. Таму палітычныя лідэры сёньня могуць сабе ў Беларусі дазваляць такое, што, здаецца, абсалютна непрыймальным для нас, людзей, якія ўжо трохі адыйшлі ад гэтага. Але гэта ўсё выглядае нармальна ў Беларусі. Таму што тое ж самае рабілі раней. Першы сакратар хіба ж гэтага не рабіў? Ён — уладца. І ўсе гэтыя якасьці былога ўладцы перанесеныя цяпер на прэзыдэнта без усякага разуменьня, што гэта — новая, іншая палітычная рэалія. І ён сам не разумее гэтага таксама. Ён паводзіць сябе так, як першы сакратар. Таму справа йдзе да рэстаўрацыі. Магчыма, — рэстаўрацыі СССР, калі нават СССР будзе толькі Беларусь. У межах беларускай палітычнай мэнтальнасьці гэта будзе ўспрымацца як тое, што й павінна быць. Гэта першае.

Другое. Людзі ня бачаць свае будучыні. У тэлевізіі, у радыё ідзе інфармацыя, сэнс якой — хлопцы, трымайцеся. Галоўнае — захаваць калектывы. Ня даць іх распусьціць. Трымаць, няхай працуюць хоць гадзіну ў месяц, але няхай гэтыя калектывы будуць. Навошта трымаць? Ідэя вельмі простая — чалавек часам ходзіць на працу й думае: ага, я трохі перацярплю, а потым усё будзе добра. І любая палітычная ідэя, якая працуе на гэта, яна праходзіць. А тых, хто кажа, што нешта трэба рабіць, што Расея ўжо прыватызавалася, што там ужо іншая эканоміка, што мы ня можам проста так далучыцца — іх не разумеюць.

**«НН»**: Значыць, разьвіваюцца толькі працэсы вяртаньня назад. А ці ёсьць у сьвядомасьці людзей хоць нейкія парасткі іншага мысьленьня?

— Нават у Горадні, дзе працэсы падобныя да віленскіх, ёсьць моцнае пачуцьцё часовасьці ўсяго, што цяпер. "Давай-давай, таргуй, заўтра мы цябе..." А тыя, хто гандлюе, жывуць толькі жаданьнем ухапіць — вось мы цяпер тарганём, а тады схаваемся і нас ня будзе.

**«НН»**: Пачуцьцё часовасьці ператварае ўсіх прыватных прадпрыймальнікаў у рвачоў? Штосьці падобнае да нэпу?

— Ну, нэп, Ленін казаў, будзе надоўга... А тут — урваць, а потым, можа, зноў "нармальна" пойдзем на працу. Ёсьць пачуцьцё часовасьці. А ў Магілёве й гэтага няма. Там гандляры, якія сядзяць у сваіх шапіках, сядзяць, як у танках.

Ужо ў Гомлі трохі лепей, бо там ідзе нейкі абмен з Украінай, нешта робіцца. Але гомельскі пралетарыят вельмі падобны да магілёўскага. Іх таксама загналі па хатах — хлопцы, чакайце! Кілямэтровыя цэхі сяльмашаў, усё працуе няпоўны час або зусім не працуе. І таксама — трымаемся, хлопцы, трымаемся! А намэнклятура старая, усе сувязі захоўваюцца, усе справы, якія раней рабіліся, шахер-махер, робяцца, на чарнобыльскай трагедыі намэнклятура нажываецца страшным чынам. Усё ж гэта людзі на месцах ведаюць...

**«НН»**: Яшчэ ў Вас ёсьць пытаньне: якія пачуцьці вы маеце да людзей наступных нацыянальнасьцяў. І даецца пералік. Пракамэнтуйце, калі ласка, адказы.

— У Беларусі я больш за ўсё баяўся задаваць гэтае пытаньне. Толькі калі ўжо ёсьць кантакт з чалавекам, я пачынаю гаварыць пра гэта. Таму што звычайна, калі сходу, гэта выклікае ў людзей абурэньне — якія ў мяне могуць быць адносіны да іншых народаў?! Я нават раблю такія ўводзіны: мы ўсе інтэрнацыяналісты, мы ўсе добра ставімся да іншых народаў, але на ўзроўні нашага быту, кухні, скажам, усё роўна да адных адчуваем пэўную сымпатыю. Гэта ня значыць нацыяналізм, мы не нацыяналісты...

**«НН»**: Прабачце, наколькі ведаю, гэтае пытаньне — міжнародны стандарт падобных анкетаў?..

— Але ў Беларусі гэта праходзіць страшна цяжка. Зусім у адпаведнасьці з арыентацыяй на Расею ў беларусаў звычайна да расейцаў самая высокая ступень сымпатыі. Часта нават большая, чым да беларусаў. Потым па сымпатыі йдуць украінцы. Хто за расейцаў, той і за ўкраінцаў, амаль што аўтаматычна. Калі браць былыя савецкія рэспублікі, то Літва выклікае больш сымпатый, чым Эстонія й Латвія. Эстонцаў і латышоў проста менш ведаюць. Сярод заходніх краін стопрацэнтна немцы заўсёды на першым месцы. Нават вэтэраны часам кажуць: ну што, ну ваявалі, але немцы вельмі добрыя людзі. Немцы як бы прысутнічаюць у Беларусі. Больш за другія народы.

**«НН»**: Больш за палякаў? Але маса беларусаў езьдзіць у Польшчу...

— Але палякі так не дапамагаюць чарнобыльцам. Палякі не ствараюць столькі супольных прадпрыемстваў, не прапануюць тэхналёгіі...

Што да антыпатый, то зноў з усіх былых саюзных народаў найбольшую колькасьць антыпатый выклікаюць грузіны. На другім месцы ўзбекі. З прыбалтаў — да літоўцаў шмат антыпатый, эстонцы й латышы могуць атрымаць абыякавасьць, а да літоўцаў — або сымпатыя, або антыпатыя.

Да кітайцаў шмат антыпатый. Уся Азія, Каўказ выклікаюць даволі вялікую колькасьць антыпатый. Тое, што кардынальна адрозьнівае ў сымпатыях і антыпатыях беларусаў і літоўцаў, — фактычна для беларусаў не існуе Скандынавія. Альбо ня ведаюць, што такая ёсьць, або — абыякавасьць, і зь імі супрацоўнічаць ня мае ніякага сэнсу. У адрозьненьне ад Літвы, дзе скандынавы маюць такую ж вагу, як і краіны Заходняй Эўропы. Для беларусаў Скандынавія не існуе. Мы Швэйцарыю замаскіравалі і далі сярод скандынаўскіх краін, але Швэйцарыю вылучаюць часта, ведаючы, што там банкі...

‹НН : Як беларусы ставяцца да беларусаў?

— Гэтае пытаньне выклікае непрыемнасьць — "я адчуваю, што мяне вывучаюць, а мне гэта непрыемна". Мяне зьдзівіла, які стандартны набор характарыстык беларусаў да саміх беларусаў. Стандартны і некрытычны. Працавітыя, сьціплыя, гасьцінныя. Усё. У Літве мы набралі даволі значную колькасьць адказаў адмоўнага стаўленьня літоўцаў да літоўцаў. Пераважае крытычны настрой. І людзі часта адказваюць: я, вядома, частка гэтага народу, але я стаўлюся вельмі крытычна. У беларусаў — стандарт. Калі хто ставіцца да беларусаў крытычна, то тыя ж рысы, якія там называліся пазытыўнымі, тут называюцца нэгатыўнымі: яны цярплівыя, несамастойныя і г.д. Але там гэта былі маральныя якасьці, а тут ужо ў палітычным сэнсе: цярплівыя робіцца адмоўнай рысай. І калі хтосьці пачынае разважаць больш разгорнута, усе фактычна кажуць — мне сорамна за беларусаў, яны несамастойныя, слухаюць іншых, маюць комплекс вялікага брата, не паважаюць сваю культуру... Словам, непавага да свайго ўласнага. А ўсе астатнія кажуць: народ неэнэргічны, чагосьці ня робіць... Я, маўляў, не народ. Няхай народ робіць, а народ ня робіць, стаяць на месцы й чакаюць.

‹НН : Што будзе вынікам усяго гэтага да сьледаваньня?

— Мы хочам зрабіць манаграфію, дзе будзе выкарыстаны беларускі й літоўскі матэрыял у параўнаньні. Дамо гістарычны ўступ, пакажам, што ў лёсе гэтых народаў шмат агульнага. Гэта палітычныя народы аднаго кораня, але шлях да незалежнасьці ў іх розны, палітычная мэнтальнасьць розная. Потым мы пяройдзем да аналізу гэтых вынікаў. І такім чынам атрымаем пэўную кропку, ад якой можна будзе танцаваць далей, параўноўваючы іншыя народы. А галоўнае, мы хочам на ўзроўні арыентацый, залежнасьці гэтых арыентацый ад культуры чалавека, ад мовы, ад унутранай арыентацыі — мы хочам паказаць працэсы фармаваньня новай мэнтальнасьці, чаго ад іх можна чакаць? Каб можна было прагназаваць, знайсьці нейкія важныя парамэтры й паказаць, што калі гэтыя парамэтры ёсьць і там, то будзе тое й тое.

Запісаў С.Д.

# СТРАТА

Браніслаў Сьвідэрскі

Маёй першай працай у Капэнгагене былі лекцыі эўрапейскай дэмакратыі для курдзкіх уцекачоў. Я прыехаў амаль у той самы час, што й яны, і ўжо праз два месяцы мы жылі ў блакітным бэтонным доме, дзе я быў адзіны зусім белы. А паколькі я прыехаў з Польшчы, краіны, якая ляжыць недалёка ад Даніі, усе прызналі мяне за эўрапейца.

Мае суседзі прыходзілі з просьбамі растлумачыць, пра што гаворыцца ў лісьце з падатковай інспэкцыі, чаму датчане гавораць паважаным старцам "ты" і як мясцовая газэта прадстаўляе перасьлед курдаў у гарах Турцыі і Іраку. Я размаўляў зь імі па-ангельску; так вырашылі і курды, і я. Я прыймаў ад 17.15 да 19.00, а пасьля таго, як яны выходзілі, заўсёды знаходзіў у перадпакоі некалькі сьвежых яек, кавалкі сыру *feta* (дацкі экспарт), а аднойчы нават кавамлын.

Маімі найлепшымі кліентамі былі: паэт Рэцэп Таіб Шыба (1953 году нараджэньня) і дзяўчына. Паэт-выгнаньнік прыйшоў, каб закупіць дацкія словы для вершаў пра дэмакратыю. Такім чынам ён хацеў засьведчыць сваю прысутнасьць у новай краіне. Ён сьцьвярджаў, што для пачатку дастаткова пяцідзесяці словаў па дзесяць кронаў, і папрасіў пра такія выразы, як вяршыні гор, як сьнег і як веснавы струмень. Я запрасіў па дзесяць кронаў за слова і два дні, якія меўся прысьвяціць вывучэньню Кароткага дацка-польскага слоўніка Альжбеты Франк-Абарынскай. Я выбраў доўгія словы, каб ён ня думаў, што яго ашукалі. Я ўважліва перапісаў іх у два слупкі, так як у слоўніку, каб не пакрыўдзіць Бога Чужога Альфабэту.

Неўтаймоўны Рэцэп Таіб закупіў сто трыццаць шэсьць словаў, што складала суму 2040 крон альбо двухтыднёвае ўтрыманьне, і мы пачалі складаць словы паміж сабою. Мы хацелі ўшанаваць рыфмамі лад, які ўсталёўвае волю і мір і за які паэт змагаўся ў сваім горным *падпольлі* (ён так і сказаў, я амаль упэўнены). Але ў дэмакратыі і мове нялёгка было распазнаць братоў. Нарэшце Шыба вырашыў, што вершы павінны гучаць так:

*У мяне ў Даніі схаваны двуручны меч,*
*якім я высякаю атворы ў мурох,*
*вызваляю сябе і дзяўчат*
*так ціха, што хатнія*
*нічога ня чуюць.*
*Яны працягваюць думаць,*
*што я нявольнік,*
*і як усе, пагружаны ў сон.*
*Я баюся толькі аднаго:*
*што гэта ня я змагаюся,*
*але Бог, этыка і мастацтва,*
*і што ня я буду каханы.*
*Гэта кара за тое,*
*што пакінуў сябе.*

885 кронаў. Разам з другім вершам гэта складала 1320 кронаў:

*Колер сьцяга*
*зьяўляецца ад гледзеньня*
*проста на сонца.*
*Хоць сьцяг і ўпадзе,*
*але колер ня ўсмокча зямля,*
*ён прылепіцца да аднаго наўдачніка*
*і будзе езьдзіць зь ім па ўсім сьвеце.*

І трэці (720 кронаў), названы «Дэмакратычны дыялёг»:

*Просьба: Ня здолею пераканаць цябе:*
*навошта,*
*але калі ты кахаеш мяне,*
*то не забівай ні мяне, ні сябе,*
*ані іншых.*
*Хоць стагодзьдзе дваццатае,*
*паспрабуй.*
*Адказ: Найлепей кахацца з катам*
*ад пачатку да канца*
*ўсё чыстае і прыстойнае*
*паспрабуй кахацца з катам*
*у XX стагодзьдзі.*

Ён прачытаў мне вершы некалькі разоў, каб я мог папрaвіць яму вымаўленьне. У сябе ў гарах ён быў сапраўды вялікім паэтам. Каб знайсьці сабе месца ў новай краіне, ён пайшоў на Ратушовы пляц, у рэдакцыю найбуйнейшай дацкай газэты «Politiken», дзе пачаў дэклямаваць строфы пра дыялёг паміж народамі. Але рэдактары ня мелі часу (ён так казаў, і я ў гэтым амаль упэўнены) і беглі да сваіх кампутараў з паведамленьнямі пра аварыю цягніка ў Рандэрс, пра вайну ў Самалі і кантрабанду мэталаў з Расеі. Яны бачылі ў абліччы паэта саміх сябе: прадаўцоў слоў. Ён быў занадта падобны да іх, каб яны здолелі яму адказаць. Толькі тыя, хто адрозьніваецца, могуць стварыць дыялёг. Дэмакратыя вымагае адрознасьці.

— Чаму мяне ня выслухалі? — паўтараў ён сваю крыўду. — Я ж вершам казаў праўду, злучаў эстэтыку з этыкай? А можа дэмакратычнае слова адварочвае людзей адно ад аднаго?

Так ён апраўдаў пра сваё дэклямаваньне. Ён ужо не хацеў словаў, хоць я абяцаў яму лепшыя, а значыць і трохі даражэйшыя. Паколькі газэта не прыняла вершы, яму не было за што набыць новы матэрыял. Талент часта марнуецца з трывіяльных нагодаў.

Неўзабаве пасьля гэтага, калі я зноў быў у адзіноце, да мяне прыйшоў пажылы мужчына з просьбай, каб я падрыхтаваў ягоную дачку да сярэдняе школы. Яны прыехалі зь вёскі ў блакітных гарах Іраку. Ад самага прыезду ён не дазволіў дзяўчыне выйсьці з дому, каб занадта гвалтоўнае спатканьне зь нявернымі ня зьнішчыла яе веры ў традыцыі продкаў і аўтарытэт сваякоў. Але ж дацкія законы патрабуюць, каб кожнае дзіця закончыла сярэднюю школу. А паколькі яны былі ў Даніі, то гэта датычылася таксама ягонай дачкі, хоць ёй было ўжо шаснаццаць гадоў.

Я адказаў, што ня ведаю дацкай мовы, але ён зразумеў гэта па-свойму. Ён прапанаваў мне пяцьдзесят кронаў у дзень і каляровы японскі тэлевізар — як адукацыйную прыладу і, адначасова, як плату. Штовечар я павінен быў абмяркоўваць з вучаніцай дацкія культурныя і палітычныя праграмы, у тым ліку «Навіны», які ў Даніі называюць «Тэлевізійнай Газэтай» *(TV-Avisen)*, і такім чынам падрыхтоўваць яе да цяжкасьцяў жыцьця пасярод Цалкам Белых. Я згадзіўся, і ён неўзабаве прыйшоў з тэлевізарам, які мы пачалі падключаць да кабэльнае сеткі. Потым увайшла дзяўчына. На ёй была доўгая блакітная суконка і чадра на твары. Ішла яна павольна. Я бачыў толькі яе вочы; зрэшты, слова "толькі" тут непатрэбнае. Я маўчаў. Яна была такая прывабная, што праўду пра гэта я ня ўмеў ані сьцьвердзіць, ані аспрэчыць (сабе, яе бацьку альбо ёй самой), ані быць да яе абыякавым. У адно імгненьне я страціў дэмакратычную дыялягічнасьць, стаў аднастайны і нудны, бо паўтараю: яна была прыгожая, а той, хто стварыў прыгажосьць жанчыны, напэўна ня быў бацькам дэмакратыі. Мяне агарнуў новы сумнеў. Як навучыць дэмакратыі найпрыгажэйшую дзяўчыну на сьвеце?



Чары жанчын, убачаных на вуліцы і ў тэлевізіі, запрашаюць да свабоднай, без цэнзуры дыскусіі сярод дэмакратычных мужчын і жанчын. Грамадзяне выказваюць засьцярогі, ці вусны пэўнай жанчыны не занадта вузкія, ці яе грудзі ня варта дапоўніць сіліконам і ці ў яе не занадта ўладныя сьцёгны. Тымчасам дзяўчына была прыгожая як канец дэмакратыі.

Я ўключыў тэлевізар і казаў ёй пра тое, што жывёла ў Аальбаргу захварэла на сап, а міністар юстыцыі парушыў закон, і папрасіў яе, каб паўтарыла. Яна казала голасам, якога я дагэтуль ня чуў, ужывала словы, якія радасна выляталі з-пад ядвабу заслоны, і якія зусім не нагадвалі заземленага дэмакратычнага слова.

На другі дзень яна прыйшла сама і сказала (як мяркую), што бацька не зусім здаровы. Я ўключыў тэлевізар, усеўся побач зь ёю і пачаў камэнтаваць дацкую рэчаіснасьць.

— Усе дацкія жанчыны адкрытыя, — казаў я, — іх твары не хаваюць словаў, якія ёсьць вобразам душы, але наадварот, паказваюць як нешта відавочнае: як права на асабістае незавуаляванае выказваньне. Хіба твар жанчыны не прыгожы, калі яна гаворыць адкрыта і рашуча?

І я папрасіў яе, каб зьняла чадру. Яна адмовілася, і я спытаўся, ці не хавае яна нечага важнейшага за дэмакратыю?

Яна маўчала. У наступны дзень яна таксама не прамовіла ніводнага слова. Падчас трэцяга спатканьня я зноў папрасіў яе, каб адкрыла твар. Я паказаў ёй эўрапейскіх жанчын на экране тэлевізара.

Тады яна адказала:

— Пад заслонай і сукняй я магу быць, кім хачу: белай і чорнай, маладой і дарослай, а таксама чорнай бабулькай і белай дзяўчынай, альбо чорным падлеткам і белай саракагадоўкай... Магу быць нават мужчынам! Ці не ўказваю я такім чынам на сапраўдны статус чалавека, які нават для сябе самога — таямніца? Калі з здыму чадру, то стану толькі распазнаным *exemplum* чалавечага гатунку: маладая дзяўчына з Пэрсіі, якая не разумее тутэйшай мовы, чужаземка, адрозная ад вас, але й адна з вас. Тады іншыя скажуць, хто я. А я гэтага стыдаюся, я стыдаюся.

Яна дарэмна паўтарыла, бо я разумеў яе абсалютна. Я адказаў пахвалою дэмакратыі як сыстэмы, дзе асоба можа адкінуць цяжкую індывідуальную таямніцу, будучы пэўная, што заўсёды будзе названая чалавекам і заўсёды будзе прадметам чыйгосьці зацікаўленьня, хоць бы й падатковай інспэкцыі. Дэмакратыя ўроўнівае людзей, бо робіць зь іх грамадзян, тады як таямніца разрозьнівае іх, ствараючы іерархію зайздрасьці і прымушаючы выдумляць сабе пад заслонай тое, што, магчыма, за адну хвіліну зробіць жыцьцё цудоўным. Таямніца прыніжае карпатлівую, штодзённую працу, зьбіраньне капейкі да капейкі, упартае шуканьне таньнейшых прадуктаў, а таксама галасаваньне за палітыкаў, якія абяцаюць ніжэйшыя цэны і вышэйшыя заробкі... Не, ты ня можаш насіць чадру ў дэмакратыі.

Так я прасіў яе сем дзён.

На восьмы дзень яна прыйшла разам з бацькам. Яна стала перад мною і адкрыла чырвоны і шары твар. Сьвятло клала глыбокія цені на далікатныя блакітныя шнары і сарамліва зацяняла выклічныя сьвежыя раны. Сёмай начы дзяўчына назаўсёды зьнішчыла свой твар вострым каменем, прывезеным з курдзкіх гор. Яна дала мне гэты камень на памяць і падзякавала за навуку.

— Цяпер ужо няма таямніцы, — сказала яна і адкінула блакітную заслону. Яе бацька таксама прызнаў, што я сваю задачу выканаў.

У той момант я зь вялізнай непрыхільнасьцю падумаў пра дэмакратыю, якая ня выслухала паэта, не заўважаючы яго сярод іншых, і якая забрала прыгажосьць у дзяўчыны, якая вылучалася сярод іншых. Я дрэнна думаў пра гэты рыгарыстычны лад, які пазбавіў мяне найлепшых кліентаў і панізіў узровень майго жыцьця.

PS. Спадар Алек Фрышман з Капэнгагену, няпэўны сьведка апісаных падзеяў (зь цяжкасьцю запамінае твары), зьвярнуў маю ўвагу на тое, што я ўзяў зашмат грошай у спадара Шыбы, лічачы некаторыя словы двойчы і нават тройчы і ў кожным вершы нанова. Такое сьцьверджаньне няслушнае зь дзьвюх прычын.

Па-першае. Кожнае слова, зьмешчанае ў новым кантэксьце, становіцца новым і яго належыць чытаць і лічыць па-новаму.

Па-другое. Увага спадара Фрышмана сьведчыць пра яго самога як пра гуманіста, ідэаліста і чалавека з добрым сэрцам, аднак ня ўлічвае рынкавыя і купецкія падставы дэмакратычнай цывілізацыі і культуры. Спадар А.Ф. прагне з стваральнікаў культуры зрабіць істотаў, адрозных ад яе спажыўцоў. У маім выпадку гэта не атрымаецца. Я — такі самы, як Ты, мой чытач. Заробленых грошай не аддам.

*Ex libris*

# Георг Крыстаф Ліхтэнбэрг



*Г.К.Ліхтэнбэрг (1742-1799), аўтар адзінаццаці «Сшыткаў афарызмаў», два зь якіх, напісаныя ў 1779-1788 г. загінулі канчаткова. Вядомыя таксама ягоныя «Лісты з Англіі». Займае пачэснае месца сярод клясыкаў нямецкае літаратуры.*

## АФАРЫЗМЫ

Ёсьць людзі, якія чуюць толькі тады, калі ім адрэзаць вушы.

Ёсьць летуценьнікі, якія ня маюць ніякіх здольнасьцяў, і гэта сапраўды небясьпечныя людзі.

Існуюць прозьвішчы, якія трэба было б павесіць на ўсіх шыбеніцах сьвету.

Ёсьць людзі, якія нараджаюцца зь нячыстым сумленьнем.

Ператварыцца ў асла — яшчэ не самагубства.

Дождж быў такі моцны, што ўсе сьвіньні сталі чыстыя, а ўсе людзі запэцкаліся.

Людзі, якія шмат чытаюць на вуліцы, дома звычайна чытаюць вельмі мала.

Рыба, якая ўтапілася ў паветры.

Усе слабыя ўрады стаяць на тым, што затыкаюць рот разумнейшай частцы народу.

Я абяцаю публіцы ўжо нічога больш не абяцаць.

Народ можна асьляпіць і перакупіць, але чалавека ніколі.

Каб штосьці новае ўбачыць, трэба штосьці новае зрабіць.

Хацеў бы я ведаць назву апошняе ў сьвеце кнігі.

Нявольніцкі ўчынак — не заўсёды ўчынак нявольніка.

Навучыўся граць некалькі ўрыўкаў на мэтафізыцы.

Гэтую кніжку трэба было б спачатку вымалаціць.

Гэта было б шчасьце, калі б вушы і іншыя органы пачуцьцяў можна было заплюшчыць як вочы.

Людзі, якія ніколі ня маюць часу, робяць найменш.

Час — скарб вучоных.

Спачатку мы мусім верыць, а пасьля верым.

Міты фізыкаў.

Праліта ўжо шмат ананімнай крыві.

Новыя погляды праз старыя дзіркі.

Амэрыканец, які адкрыў Калюмба, зрабіў кепскае адкрыцьцё.

Больш велічнага застою розуму не заўважана да гэтае пары.

Першы крок мудрасьці — усё абвінаваціць, апошні — пагадзіцца з усім.

Сымпатыя — дрэнная міласьціна.

Нашыя газэты — паданьні часу.

Усялякая бесстароннасьць штучная.

Мы й сапраўды ня ведаем, ці не знаходзімся цяпер у доме вар'ятаў.

Пераклаў зь нямецкай Уладзіслаў Струміла.

# ЧАЛАВЕК НАТОЎПУ

Эдгар Алан По

*Ce grand malheur, de ne pouvoir être seul.*—La Bruyère

Пра адну нямецкую кнігу было добра сказана, што *"es läßt sich nicht lesen"*— яна не дае сябе прачытаць. Бываюць таямніцы, якія не даюць сябе выказаць. Штоночы людзі паміраюць у сваіх ложках, сьціскаючы рукі духовых спаведнікаў, жалосна зазіраючы ім у вочы — паміраюць з роспачу ў сэрцы й сутаргамі ў горле дзеля агідных таямніцаў, якія *не выносяць* таго, каб іх раскрывалі. Часам аднак чалавечае сумленьне бярэ на сябе такую цяжкую ў сваёй страшлівасьці ношу, што скінуць яе можна толькі ў магільны дол. І так сутнасьць усяго злачыну застаецца неразгаданая.

Ня так даўно, адным восеньскім надвячоркам, я сядзеў каля вялікага вакна ў кавярні Д—— у Лёндане. Ужо колькі месяцаў я быў хворы, але цяпер пачынаў вяртацца да здароўя і, адчуваючы, як дадаецца сіла, перабываў у адным з тых шчасных настрояў, якія становяць дакладную процілегласьць *ennui* — настрояў найвастрэйшага хаценьня, калі спадае смуга з разумовага зроку — ἀχλὺς ἣ πρὶν ἐπῆεν — і ўзварушаны інтэлект нагэтулькі перавышае свой будзённы стан, як жывы й востры розум Ляйбніца вар'яцкую й нетрывалую рыторыку Горгія. Мяне радавала ўжо проста магчымасьць дыхаць; я знаходзіў нават нейкую прыемнасьць у тым, што звычайна спрычыняе боль. Я адчуваў спакойнае але дапытлівае зацікаўленьне да ўсяго. З цыгараю ў роце й газэтаю на каленях я прабавіў большую частку вечара то вывучаючы абвесткі, то разглядаючы стракатую публіку ў залі, то пазіраючы праз замглёныя шыбы на вуліцу.

Гэта была адна з галоўных праезных вуліцаў у горадзе, цэлы дзень на ёй было поўна людзей. Аднак, калі апускаўся змрок, натоўп рабіўся штораз люднейшы; у сьвятле ўжо запаленых ліхтароў два густыя няспынныя патокі гарадзкога жыхарства пасьпешліва праплывалі міма дзьвярэй. Мне ніколі не даводзілася быць у падобнай сытуацыі ў гэткую вечаровую часіну, і таму шумлівае мора чалавечых галоваў напаўняла мяне чароўнаю навізною пачуцьця. Нарэшце я зусім забыўся пра кавярню й цалкам захапіўся агляданьнем вулічнага відовішча.

Напачатку мае назіраньні абмяжоўваліся абстракцыямі й абагульненьнямі. Я глядзеў на праходняў ва ўсёй іхнай масе й думаў пра іх у сукупе іхных дачыненьняў. Неўзабаве аднак я перайшоў да дэталяў і пачаў з падрабязным зацікаўленьнем разглядаць незьлічоную разнастайнасьць постацяў, адзеньня, настрою, хады, позіркаў і выразаў твару.

Пераважная большасьць тых, хто праміnаў кавярню, мела задаволены й дзелавы выгляд і думала, здавалася, толькі пра тое, як прабіцца праз тлум. У іх былі насупленыя бровы й заклапочаныя вочы; сутыкнуўшыся зь іншымі падарожнікамі, яны не выяўлялі ніякіх знакаў нецярплівасьці, а толькі папраўлялі вопратку й пасьпешліва мкнулі далей. Іншыя ж, якіх таксама было нямала, вылучаліся неспакойнымі рухамі й расчырванелымі тварамі, яны гаварылі самі з сабою, заўзята махаючы рукамі, нібы адчувалі самоту якраз з прычыны гушчыні навакольнага натоўпу. Калі нехта стрымваў іхны рух наперад, гэтыя людзі раптам пераставалі мармытаць і пачыналі ўдвая шырэй махаць рукамі, чакаючы зь няшчыра-безуважнай усьмешкай на вуснах пакуль іх абміне сустрэчная перашкода. Калі іх штурхалі, яны шчодра кланяліся штурхальніку і, здавалася, моцна бянтэжыліся. — У людзей гэтых дзвюх групаў не было нічога асабліва выразнага, апрача таго, што я заўважыў. Іх убраньне належала да таго гатунку, які справядліва завецца добрапрыстойным. Гэта без сумневу былі арыстакраты, гандляры, юрысты, камэрсанты, біржавыя маклеры — эўпатрыды й банальнасьці грамадзтва — людзі зусім вольныя ад заняткаў або надзвычай занятыя нейкімі сваімі клопатамі — самастойным вядзеньнем нейкіх справаў. Яны ня надта вабілі маю ўвагу.

Адразу можна было пазнаць племя службоўцаў; сярод іх я вылучаў дзьве выразныя катэгорыі. Гэта былі дробныя клеркі з навамодных фірмаў — маладыя джэнтэльмэны ў абцягнутых сурдутах, бліскучых чаравіках, з густа намашчанымі валасамі й надзьмутымі вуснамі. Калі ня браць пад увагу пэўную фарсістасьць у паставе, якую за адсутнасьцю лепшага слова можна назваць *кляркунствам*, манеры гэтых людзей здаваліся мне дакладным адбіткам таго, што за год-паўтара перад тым лічылася вяршынёю *бон тону*. Яны падбіралі адкіды дабрачыннасьці вышэйшага грамадзтва; — у гэтым, на маю думку, заключаецца найлепшае акрэсьленьне згаданае групы.

Катэгорыю вышэйшых службоўцаў салідных фірмаў, або "старых надзейных прыяцеляў", цяжка было зблытаць зь некім іншым. Яны пазнаваліся зь іх цёмных або чорных сурдутаў і нагавіцаў, пашытых дзеля зручнейшага сядзеньня, насілі яны таксама белыя гальштукі й камізэлькі, шырокія самавітыя чаравікі і тоўстыя шкарпэткі або гетры. — Усе яны былі лысаватыя, а правае вуха ў іх, гадамі прызвычаенае трымаць асадку, паводле дзіўнага звычаю было крыху адтапыранае ўверсе. Я заўважыў, што яны заўсёды здымалі й надзявалі капялюш абедзьвюма рукамі, а яшчэ насілі гадзіньнікі на кароткім залатым ланцужку трывалага старадаўняга ўзору. Яны ўсяляк удавалі самавітасьць, калі толькі можна ўдаваць штосьці нагэтулькі паважнае.

Нямала траплялася мне зухаватых з выгляду асобінаў, што належалі, як я лёгка разумеў, да пароды кішэньнікаў экстраклясы, якімі поўняцца ўсе вялікія гарады. Я разглядаў гэтае племя зь вялікай цікавасьцю і ніяк ня мог уявіць, як могуць прымаць іх за джэнтэльмэнаў самі джэн-

*Працяг на старонцы 14*

# ЧАЛАВЕК НАТОЎПУ

Працяг з старонкі 13

тэльмэны. Неабсяжнасьць іхных манжэтаў у спалучэньні з выразам празьмернае шчырасьці на твары адразу іх выдавала.

Шулераў, якіх я таксама заўважаў нямала, было яшчэ лягчэй распазнаць. Яны былі ўбраныя вельмі розна: і як мацёрыя напарстачнікі — у вэльвэтавыя камізэлькі з каляровымі хусткамі вакол шыі, залачонымі ланцужкамі й філігранавымі гузікамі, або як падкрэсьлена незаўважны сьвятар, які менш за ўсё мог выклікаць падозраньні. І аднак усе яны вылучаліся нейкай прыпухлай смуглявасьцю твараў, бляклай замглёнасьцю вачэй, бледнасьцю сьціснутых вуснаў. Да таго ж, былі яшчэ дзьве рысы, зь якіх я заўсёды мог іх распазнаць; — асьцярожная сьцішанасьць тону ў размове і вялікі палец на руцэ, больш чым звычайна адстаўлены прастакутна да іншых пальцаў. — Вельмі часта, у кампаніі з гэтымі круцялямі, мне траплялася парода людзей, што хоць і мелі крыху іншыя манеры, усё роўна былі птушкі з тае самае чарады. Іх можна было б акрэсьліць джэнтэльмэнамі, якія жывуць з сваё спрытнасьці. Яны, як выглядае, палююць на людзей у двух атрадах — фарсуноў і вайскоўцаў. Галоўныя азнакі першае групы — даўгія валасы й заўсёдная ўсьмешка; другое — мундур з аксэльбантамі й насупленыя бровы.

Апускаючыся, так сказаўшы, па шкале арыстакратычнасьці, я знайшоў больш змрочныя й глыбокія тэмы для разважаньняў. Я бачыў жыдоўскіх вулічных гандляроў зь ястрабінымі вачыма, якія глядзелі з твараў, дзе ўсе іншыя рысы былі пазначаныя пакорлівым прыніжэньнем; дужых прафэсійных жабракоў, што злосна касавурыліся на больш прыстойных з выгляду просьбітаў, якіх толькі нясьцерпная роспач выгнала ў змрок ночы па міласьціну; хваравітых і страхотных інвалідаў, на якіх сьмерць ужо паклала сваю цьвёрдую руку, якія, няпэўна валочачы праз натоўп свае кволыя целы, умольна зазіралі кожнаму ў твар, нібыта шукаючы нейкага неспадзяванага суцяшэньня, нейкай страчанай надзеі; сьціплых маладых дзяўчат, што вярталіся пасьля доўгай і позьняй працы ў панурыя дамы і сьціскаліся, больш ад страху, чым ад абурэньня, пад позіркамі нахабных нягоднікаў, якіх было нават не абмінуць, каб яны не прыцiснуліся сярод натоўпу; вулічных жанчын самага рознага веку й гатунку — неаспрэчную прыгажуню ў найлепшым жаночым веку, што нагадвае Лукіянаву статую, з аблічам з пароскага мармуру й з поўным гнюснага бруду нутром — агідную й безнадзейна пагіблую пракажаную ў лахманах — паморшчаную, завешаную аздобамі, абмазаную пудрамі й памадамі старую чапялу ў апошнім намаганьні вярнуць маладосьць — зусім малое дзіця зь нясьпелымі формамі, спрактыкаванае праз багаты досьвед ва ўсіх страшных манернасьцях свайго рамяства, ахопленае шалёным памкненьнем параўняцца ў заганах з старэйшымі; незьлічоных і неапісальных п'яніцаў — адных у палапленым рызьзі, што маўкліва хісталіся на бакі, з пабітымі тварамі й тускнымі вачыма — другіх у цэлым, але брудным адзеньні, з крыху няпэўнай фанабэрлівай хадою, з тоўстымі гарачымі вуснамі і з прыязнымі расчырванелымі тварамі — іншых, чыё адзеньне некалі было добрае, а й цяпер яшчэ было старанна выгладжанае шчоткай — людзей, якія йшлі ненатуральна цьвёрдаю й пругкаю хадою, але твары ў якіх былі сьмяротна бледныя, вочы жахліва-дзікія й чырвоныя, якія, праціскаючыся скрозь натоўп, чапляліся дрыготкімі пальцамі за ўсё, што трапляла ім пад руку; апрача ўсіх гэтых — пірожнікаў, насьбітоў, вугальшчыкаў, сьмецяроў; катрыншчыкаў, малпаводаў і складальнікаў балядаў, тых, хто гандляваў імі і тых, хто сьпяваў; абадраных рамесьнікаў і зьнясіленых работнікаў усіх гатункаў, і ўсё гэта было поўнае шумлівай і бязладнай жывасьці, якая рэзала вуха і ад якой балела ўвачч.

Чым глыбейшая рабілася ноч, тым больш паглыблялася й мая цікаўнасьць да відовішча; бо ня толькі матэрыяльна зьмяніўся агульны характар натоўпу (яго далікатнейшыя рысы зьнікалі з адступленьнем з сцэны больш прыстойнае часткі гараджанаў, грубейшыя ж наадварот рабіліся штораз больш выразныя, бо позьняя часіна выцягвала зь дзённых логваў самую розную гнюсоту), але й сьвятло газавых ліхтароў, напачатку кволае ў ягоным змаганьні з апошнімі промнямі дня, паволі бралася ў сілу й пакрывала ўсё навокал сутаргавай бляклай сьвецеіньню. Усё навокал было цёмнае і ўрачыстае — як той чарнадрэў, зь якім параўноўваюць стыль Тэртуліяна.

Зачараваны дзівоснымі гульнямі сьвятла, я захапіўся разгляданьнем асобных твараў; і хоць хуткасьць, зь якою зіхоткі сусьвет мільгаў за вакном, дазваляла мне кінуць толькі адзін позірк на кожны твар, усё ж здавалася, што ў тым маім асаблівым стане душы й розуму я часта быў здольны нават за найкарацейшае імгненьне беглага позірку прачытаць гісторыю доўгіх гадоў.

Прыціснуўшыся лобам да шыбіны, я сядзеў, падрабязна аглядаючы натоўп, калі раптам перада мною зьявіўся твар (стрыхлелага старога чалавека гадоў шасьцідзесяці пяці або сямідзесяці), — твар, які спыніў і захапіў усю маю ўвагу, дзякуючы абсалютнай непаўторнасьці ягонага выразу. Нічога, што б хоць найдалей нагадвала гэты выраз, я ніколі яшчэ ня бачыў. Я добра памятаю, што маёй першай думкай, калі я ўбачыў яго, было, што Рэц, паглядзеўшы на яго, не вагаючыся выбраў бы гэты твар для сваіх партрэтных уцелаўленьняў д'ябла. Калі я паспрабаваў за кароткую хвіліну майго арыгінальнага агляду прааналізаваць значэньне, схаванае ў гэтым твары, перада мною няясна й блытана паўсталі вобразы вялікае разумовае сілы, абачлівасьці, скупасьці, хцівасьці, стрыманасьці, хітрасьці, крыважэрнасьці, зларадасьці, весялосьці, празьмернага страху, глыбокай — скрайняй роспачы. Я быў дзівосна ўзрушаны, спалоханы, зачараваны. "Якая дзікая гісторыя, — сказаў я сам сабе, — запісаная ў гэтай душы!" Тады ў мяне ўзьнікла нясьцерпнае жаданьне прасачыць за гэтым чалавекам, даведацца пра яго болей. Пасьпешліва накінуўшы плашч і схапіўшы капялюш і кій, я выбег на вуліцу й пачаў прадзірацца праз натоўп у той бок, куды, як я пабачыў, пайшоў стары; бо ён ужо зьнік з вачэй. Не бязь цяжкасьці празь нейкі час я ўсё ж заўважыў яго, наблізіўся й пайшоў за ім, захоўваючы асьцярожнасьць, каб не прыцягнуць ягонае ўвагі.

Цяпер я мог добра яго разгледзець. Ён быў нізенькі, вельмі худы і з выгляду вельмі кволы. Вопратка на ім, агулам кажучы, была брудная й падзертая; але калі час ад часу на яго падала зыркае сьвятло ліхтара, было відаць, што ягоная бялізна, хоць і брудная, была пашытая з дыхтоўнае тканіны; і можа мяне падмануў мой зрок, але праз прагал у шчыльна зашпіленым і відавочна пазычаным з чужога пляча *roquelaire*'ы, у які ён быў загорнуты, я заўважыў дыямэнт і кінжал. Гэтыя назіраньні падагрэлі маю цікаўнасьць, і я вырашыў ісьці за незнаёмцам, куды б ён ні скіраваўся.

Было ўжо зусім цёмна, і над горадам павісла шчыльная сырая смуга, якая хутка абрынулася густым зацяжным дажджом. Гэтая зьмена ў надвор'і дзіўным чынам паўплывала на натоўп, у ім распачаўся новы розрух, а над ім павырасталі незьлічоныя парасоны. Калыханьне, штурханіна й гамана ўзмоцніліся ўдзесяцёра. Што да мяне, дык я ня надта зважаў на дождж — з увагі на старую гарачку, што хавалася недзе ў глыбінях майго арганізму, вільгаць была мне нейкай небясьпечнай прыемнасьцю. Абвязаўшы рот хустачкай, я йшоў далей. Поўгадзіны стары, змагаючы ўсе перашкоды, ішоў напрасткі па вялікай вуліцы; я ішоў зусім побач, баючыся згубіць яго з вачэй. Ні разу не азірнуўшыся назад, ён мяне не бачыў. Пасьля ён павярнуў на папярэчную вуліцу, якая, хоць і густа напоўненая людзьмі, была ўсё ж не такая тлумная, як тая, з якой ён толькі што сышоў. І тут адразу заўважылася перамена ў ягоных паводзінах. Цяпер ён ішоў павольна й ня так мэтанакіравана, як перад тым — больш нерашуча. Некалькі разоў ён перайшоў сюды-туды вуліцу безь ніякае бачнае мэты; навокал усё яшчэ было так людна, што падчас кожнага з гэтых пераходаў я мусіў трымацца блізка ад яго. Вуліца была вузкая й даўгая, ён ішоў па ёй гадзіну, за якую натоўп паступова паменшаў да той колькасьці, якую звычайна можна пабачыць на Брадвэі каля Парку — такая вялікая розьніца ў жыхарстве паміж Лёнданам і найбольш людным горадам Амэрыкі. Яшчэ адзін паварот вывеў нас на ярка асьветлены пляц, перапоўнены жыцьцём. Да старога зноў вярнуліся старыя манеры. Угнуўшы галаву, ён кідаў навокал дзікія позіркі з-пад насупленых броваў. Упарта й неадступна ён ішоў далей. Я аднак зьдзівіўся, калі заўважыў, што абыйшоўшы пляц ён зноў пайшоў па сваіх сьлядох. Яшчэ больш я быў уражаны, калі ён паўтарыў тую самую праходку некалькі разоў — адзін раз ледзь ня выкрыўшы мяне, калі нечакана павярнуўся.

Так ён практыкаваўся яшчэ гадзіну, пад канец якой насустрач нам траплялася ўжо значна менш праходняў, чым спачатку. Дождж не пераставаў; у паветры пахаладнела; людзі разыходзіліся па дамах. Нецярпліва махнуўшы рукою, мой вандроўнік зьвярнуў у параўнаўча пусты завулак. Па гэтым завулку, даўжынёю ў чвэрць мілі, ён памкнуў так хутка, як нельга было й спадзявацца ад такога старога чалавека, і мне давялося прыкласьці нямала намаганьняў, каб не адстаць ад яго. Праз колькі хвілінаў мы выйшлі да вялікага й люднага базару, з наваколлем якога незнаёмец быў, відаць, добра знаёмы. Там зноў я пабачыў яго такім, як і на самым пачатку, ён бязмэтна снаваў сюды-туды сярод мора гандляроў і пакупнікоў.

Паўтары гадзіны ці каля таго, што мы прабылі ў гэтай мясьціне, я мусіў ужыць усю маю асьцярожнасьць, каб не згубіць старога й разам з тым не прыцягнуць ягонае ўвагі. На шчасьце, на нагах у мяне былі гумовыя галёшы, і я мог рухацца зусім бязгучна. Ні разу ён не заўважыў, што я за ім назіраю. Ён уваходзіў у адну крамку



за другой, ні да чога не прыцэньваўся, не казаў ні слова і глядзеў на ўсе тавары дзікім і пустым позіркам. Я быў да таго зьдзіўлены ягонымі паводзінамі, што цьвёрда пастанавіў, што мы зь ім не расстанемся, пакуль я хоць у нейкай меры не задаволю сваю цікаўнасьць адносна гэтага чалавека.

Гадзіньнік гучна прабіў адзінаццаць удараў, і наведнікі пачалі пасьпешліва пакідаць базар. Нейкі крамнік, зачыняючы аканіцы, штурхануў старога, і я ўбачыў, як усё цела ягонае моцна здрыганулася. Ён пасьпяшаўся на вуліцу, на хвіліну неспакойна азірнуўся і зь неверагодным спрытам пабег незьлічонымі крывымі бязьлюднымі завулкамі, пакуль мы зноў не апынуліся на вялікай праезнай вуліцы, адкуль пачалося нашае падарожжа — дзе стаяў гатэль D——. Вуліца аднак мела ўжо зусім іншы выгляд. Яна ўсё яшчэ блішчала ў сьвятле ліхтароў; але ліў моцны дождж, і людзей на ёй было вельмі мала. Незнаёмец быў цяпер бледны. Ён у задуменьні зрабіў пару крокаў па нядаўна яшчэ людначу праспэкту, пасьля, глыбока ўздыхнуўшы, павярнуў у бок ракі і, паблукаўшы бясконцымі кружнымі дарогамі, выйшаў нарэшце да аднаго з галоўных тэатраў. Ён ужо зачыняўся, і тлум публікі выліваўся зь дзьвярэй. Я пабачыў, як стары разявіў рот, нібы каб глынуць паветра, і кінуўся ў натоўп; мне падалося, што невыносная пакута, што адбівалася на ягоным твары, крыху сунялася. Ён зноў угнуў галаву і зноў стаўся такім, якога я ўбачыў яго напачатку. Я заўважыў, што ён пайшоў туды, куды скіравалася большасьць гледачоў — але, наагул, я так і ня здолеў спасьцігнуць непрадказальнасьць ягоных дзеяньняў.

Пакуль ён ішоў далей, гурт людзей паступова расьсейваўся, і да старога вярталіся разгубленасьць і неспакой. Нейкі час ён неадступна крочыў за купкай зь дзесяці-дванаццаці п'яных гулякаў; але яны адзін за адным разыходзіліся, пакуль не засталіся толькі трое, у нейкім вузкім і змрочным бязьлюдным завулку. Незнаёмец прыпыніўся і, здавалася, на хвіліну задумаўся; тады, раптоўна ажывіўшыся, хутка пашыбаваў па дарозе, якая вывела нас на край гораду, да ваколіцаў вельмі непадобных на тыя, што мы толькі што прамінулі. Гэта быў самы агідны лёнданскі квартал, дзе ўсё было пазначанае страшным кляймом самае неверагоднае беднасьці й самага невыпраўнага злачынства. Пад цьмяным сьвятлом выпадковых ліхтароў высокія старасьвецкія паточаныя чарвякамі драўляныя будыніны стаялі гатовыя ўпасьці. Набудаваныя яны былі так тлумна й бязладна, што між імі цяжка было распазнаць штосьці падобнае на праход. Брук быў укладзены абы як, між камянёў буяла густая трава. У забітых канавах гніло ўсякае паскудзтва. Усё навокал патыхала заняпадам. Аднак, па меры таго, як мы йшлі наперад, гукі чалавечага жыцьця паступова ажывалі, пакуль урэшце мы ня ўбачылі вялікія грамады найбольш занядбаных насельнікаў Лёндана, якія сноўдалі сюды-туды. Дух старога зноў успыхнуў, як сьвечка перад тым як пагаснуць. Ён зноў памкнуўся наперад пругкім поступам. Раптам, павярнуўшы за рог, мы ўбачылі полымя яркага сьвятла й апынуліся перад адной зь вялізных загарадных сьвятыняў Няўстрымнасьці — перад адным з палацаў д'ябла, Джына.

Ужо амаль пачало сьвітаць; аднак гурт няшчасных п'яніцаў усё яшчэ тоўкся каля завабнага ўваходу. Ледзь не закрычаўшы ад радасьці, стары прабіўся ў будыніну, зноў вярнуўшыся да пачатковага настрою, і там хадзіў сярод натоўпу ўзад і ўперад бяз бачнае мэты. Не пасьпеў ён аднак удосталь там набыцца, як агульны рух да дзьвярэй зазначыў, што гаспадар зьбіраецца зачыніць іх на ноч. І тады я заўважыў нешта яшчэ больш балючае за роспач у твары дзіўнага стварэньня, за якім я так неадступна назіраў. Ён аднак ня стаў доўга вагацца, а з шалёнай энэргіяй павярнуў у зваротную дарогу, у самае сэрца магутнага Лёндана. Ён бег доўга й шпарка, а я не адставаў ад яго, ахоплены надзвычайнай цікаўнасьцю, пастанавіўшы не спыняць дасьледаваньня, якое цяпер завалодала мною дарэшты. Тым часам узыйшло сонца, і калі мы зноў апынуліся ў самай людной мясьціне вялікага гораду, на вуліцы з гатэлем D——, яна зноў поўнілася ня меншым людзкім тлумам і рухам, чым я назіраў папярэднім вечарам. І тут, сярод штораз большага натоўпу, я працягнуў свае доўгія назіраньні за незнаёмцам. Але, як звычайна, ён хадзіў сюды-туды і за ўвесь дзень не пакінуў шумлівага віру адной гэтай вуліцы. Але калі ўвечары на горад апусьцілася сутоньне, я адчуў сьмяротную стому і, спыніўшыся перад маім падарожнікам, паглядзеў яму проста ў твар. Ён не зьвярнуў на мяне ніякае ўвагі і ўрачыста пашыбаваў далей, а я, кінуўшы сачыць за ім, спыніўся ў глыбокім задуменьні. "Гэты стары, — сказаў я нарэшце, — увасабленьне й дух страшнага злачынства. Ён ня можа заставацца адзін. *Ён — чалавек натоўпу.* Няма сэнсу за ім ісьці; бо я нічога не даведаюся ні пра яго самога, ні пра ягоныя ўчынкі. Нават самае ўбогае ў сьвеце сэрца — кніга, таўсьцейшая за *Hortulus Animae,* і можа найвялікшая Божая ласка ў тым, што *es läßt sich nicht lesen*".

Пераклаў з ангельскай Сяргей Шупа

## Лісты ў Рэдакцыю



*Л.Г. з Койданава:* "Я — збалелая ліцьвінская душа. Я — трава, дрэвы, кветкі. У мяне няма голасу, ёсьць толькі ціхі шэпт. Але, калі ўсходзіцца моцны перадначавальнічны вецер, калі асьвенціць грэшную зямлю Бліскавіца, грымне яшчэ й цяпер магутны Пярун і заплача ўсімі забыты Даджбог — тады мой аднастайны шэпт набывае іншую якасьць. Пачуйце гэта, ліцьвіны: дубы ракочуць, кляны сьвішчуць, елкі гудуць, бярозы шумяць, хвоі стогнуць, асіны енчаць. Я яшчэ жывая... Траву выкошваюць, дрэвы высякаюць, кветкі вырываюць. Колькі яшчэ мне даводзецца пакутаваць на гэтай скалечанай зямлі? Ці не прыходзіць мая пара ператварыцца ў вялікую белую птушку і ляцець да Сьвятла? Адтуль, з Вышыні, я буду пасылаць ліцьвінам Промні і абуджаць да жыцьця ўсё новыя й новыя душы. Надзея ёсьць яшчэ ўзьляцець, бо вымаўлена нарэшце: праваслаўе й каталіцызм — гэта два крылы. Хто далучыць да майго бясплотнага цела рулявы хвост — пратэстантызм?

Сваёй самаахвярнасьцяй пратэстанты навучылі ўсіх хрысьціян любові да бліжняга. Праваслаўныя не далі загінуць маёй язычніцкай існасьці, дзякуючы сваёй зацятасьці, каталікі не дазволілі мне растварыцца ў славянскім моры.

Ці знойдзецца на Бацькаўшчыне асілак духу, здольны выляпіць моцныя грудзі, што расьсякуць зямную атмасфэру? Ці знойдзецца асілак розуму, што створыць галаву й шыю, каб трымаць накірунак і мужна пераляцець жудасную прорву?

Брацьця! Ці хваце нам сілы?!"

*Сяргей Бельскі з Хойнікаў* (гл. «НН» №2, 1995): "Няёмка з-за сваёй няўважлівасьці... Вядома ж, Адам Брэмэнскі жыў у XI, а не ў XII ст., як у тэксьце. Даруйце, калі ласка".

*Сьвятлана Лавейкіна зь Віцебску:* "Беражыся маны!

Калі ваш асабісты муж<br>
Штодня ў каханьні<br>
призвавацца будзе<br>
І сыпаць словы, як пялёсткі руж,<br>
Няйнакш сумненьне<br>
закрадзецца ў грудзі:<br>
Ці не гіпноз, ня самаўгаворы —<br>
Бясконцыя ружовенькія словы?<br>
Ці не зьявілася каханка ў мужа?<br>
Ці не пракралася да сэрца<br>
сыцюжа?<br>
Няхай бы ён сьцьвярджаў<br>
каханьне справай<br>
І полымем пачуцьцяў саграваў,<br>
І як найменш славеснае<br>
прыправы —<br>
Вось гэткі муж<br>
цаны б сабе ня знаў!<br>
А ці ня тое ж адбываецца<br>
з краінай,<br>
Якую наўзахваткі славім мы,<br>
І з мовай, "матчынай", "адзінай",<br>
Што не апеў, бадай, адно нямы?<br>
Калі ж патрыятычнага вучнку<br>
Чакае Беларусь ад грамадзян,<br>
Нібы хавае тых прамоўцаў<br>
скрынка<br>
Ці паглынае фантастычны збан,<br>
Адкуль гучаць надрыўна галасы,<br>
Што заклікаюць прастакоў<br>
на подзьвіг,<br>
Але няма ў тых словах<br>
матчынай красы —<br>
Ілжэпаэты слоў ня маюць родных!

Як цяжка іншы раз бывае<br>
Каханьне ад спакусы сатаны,<br>
Што раптам маску сына надзявае,<br>
Адрозьніць!<br>
Беражыцеся маны!"

## Паштовая скрынка



*Андрэю М.Я.* Апісаньне і апісальніцтва — розныя рэчы. Другое звычайна агульнае і мае на мэце аб'ём. Першае імкнецца быць арыгінальным, напоўненым, стварыць адмысловы настрой, адчуваньне сытуацыі, краявід, партрэт героя... У апісаньні не павінна быць сказаў, якія пасьля можна выкінуць без шкадаваньня й бяз страты цэлага. Апісальніцтва ж складаецца менавіта з такіх сказаў. Любая калізія ў такім агульным выкананьні — банальная. Не стае прыватнасьцяў, канкрэтыкі, адмысловай дэталізацыі. Гэта ўсё тычыцца першай часткі тэксту. Другая — наадварот — залішне "тэлеграфная", як заканьне... Талстой і Борхес? Але пры ўсіх адрозьненьнях абодва яны пісалі арыгінальныя й самадастатковыя творы.

*І.К.* Друкаваць ня будзем. Хто згодны — таго пераконваць ня трэба, а хто ня згодны або ня ведае — таго гэтым не пераканаеш. Справа вядомая. Трэба шукаць іншыя аргумэнты і пачаць хоць бы з таго, каб пісаць менш і не пад капірку.

*Алесю К. зь Менску.* «Кароткі курс беларускага правапісу» быў надрукаваны ў самым першым нумары «НН» у 1991 годзе. Усё, што рабілася й робіцца на старонках газэты пасьля — гэта апрабацыя тых ці іншых прынцыпаў пад кантролем нашых моваведаўцаў. Урэшце з гэтага мусіць быць сфармаваны пэўны аптымальны варыянт. Спачатку меркавалася стварыць звод нарматываў "тарашкевіцы" і з гэтым зводам у руках шукаць кампрамісу з "наркомаўцамі". Але "той" бок, на жаль, ня выявіў энтузіязму. Наадварот, афіцыйныя органы пачалі цкаваць тарашкевічныя друкі, пагражаючы спыніць іх фінансаваньне. І цяпер нам нічога не застаецца, як шукаць аптымальны правапіс у аднабаковым парадку. Але гэтая праца вядзецца. Прынамсі, у кожным нумары «НН». З напрацаванага жывога досьведу спэцыялісты ўрэшце сфармуюць такі "курс беларускага правапісу". Што датычыць астатніх Вашых пытаньняў, то адказы на іх былі, ёсьць і будуць зьяўляцца ў «Нашай Ніве» надалей. Чытайце ўважліва.

*Р.Р. з Баранавічаў.* Гэта "вершы для сябе". Кожны меншы мае які-небудзь моўны дэфэкт і не становіцца афарызмам, кожны большы — не стварае настрої й вобразы і не становіцца паэзіяй. Напэўна, Вам яны здаюцца дасканалымі, таму гэта — "вершы для сябе". Калі надумаецеся дасылаць нам яшчэ што-небудзь, ня думайце пра ранейшае як пра дасягненьне. Паспрабуйце прааналізаваць рэдакцыю Вашага першага тэксту ў «НН» і не паўтарайце памылак.

*С.К. з Жодзіна.* Першы тэкст, які друкаваўся ў «НН», менш нагадваў школьнае сачыненьне, чым гэты. Бойцеся падманвацца, а мы будзем чакаць Вашых новых твораў.

*Барбары Т. зь Віцебску.* З усяе нізкі найбольш удалыя вершы «Ты спытаесься — я адкажу» і «Каляднае». Але друкаваць іх ня будзем, таму што ў Вас, безумоўна, ёсьць яшчэ лепшыя.

*Ігару С. з Кобрыня.* Той "неражыты" дэкаданс, які ў апошнія гады так прываблівау "новых беларускіх літаратараў", цяпер выглядае ўсё больш марна. Мова, якая адчувае ўпадак, памножаная на эстэтычнае ўпадніцтва, страчвае сувязі й рассыпаецца ў пыл. Мова ўжо не дае творцу свае энэргіі, а наадварот, ад яго вымагае гэтае энэргіі. На яе ўжо не абапрэсься, бо наадварот, трэба падпіраць яе. Візіі "сюру" ў такой сытуацыі не ратуе нішто, іх аўтар трапляе ў "падпольле падпольля", адкуль за дзённае сьвятло прымаецца люмінэсцэнтная лямпа верхняга паверху. Таго, што над падпольлем, папросту не існуе.

*Ільлю С. зь Менску.* Будзем лічыць «Сустрэчу» заяўкай на наступныя публікацыі. Трывіяльная парада — перачытаць "чужым вокам" і дзесяць разоў перапісаць.

*В.Л. зь Мядзела.* Найлепшы ў падборцы — «Дудовы сьпеў». Мяркуем надрукаваць.








## Фундатары «НН»:

Жыхары вёскі Заказанка Берасьцейскага раёну — 140 DM<br>
Алег Дубяга з ЗША — 50 USD<br>
Вітаўт і Зора Кіпелі з ЗША — 100 USD<br>
Янка Запруднік з ЗША — 100 USD<br>
Аляксандар Міцкевіч з ЗША — 30 USD<br>
Алег Хацкевіч — 35 USD<br>
Аляксандар Хацкевіч — 35 USD


НАША НІВА 5 (35) Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Рэдактар Сяргей Дубавец. Заснавальнік і выдавец Павал Жук.

Адрасы для допісаў: 220123 Менск, а/с 71 альбо 2041 Вільня, а/с 2082. Падпісны індэкс 63125, Steigimo liudijimas Nr.1178.

Рэдакцыя (Менск, Іванаўская 56 альбо Вільня, Жыгімонта 12/2): Алег Дзярновіч (адк. сакратар), Сяргей Харэўскі (маст. рэдактар),

Андрэй Антонаў (набор); пры ўдзеле Сяргея Шупы. Афсэтны друк. Фармат А3. Наклад 7 тыс.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (220041 Менск, пр. Скарыны, 79). Кошт дамоўны.

Падпісана ў друк 5.06.95. Замова 1658